РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 50 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №8 (117), 23 ЛЮТАГА 1994 ГОДА.

СЁННЯ:






■ Укладка стар. 5 — 12.





Васіль Шаранговіч:

"...І што б мы ні рабілі
у сённяшнім часе,
за намі стаіць гісторыя,
якая, урэшце,
будзе разбірацца
і з нашай
творчасцю."

## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

- 22 лютага ў Белдзяржфілармоніі — канцэрт выкладчыкаў музычных школ Мінска — пераможцаў V Рэспубліканскага агляду метадычнай і творчай работы.

- 22 лютага ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А.Пушкіна нарада па выніках мінулага года кіраўнікоў раённых і гарадскіх дзіцячых бібліятэк. Перад удзельнікамі выступіла прадстаўніца жаночага хрысціянска-дэмакратычнага руху нацыянальнага Адраджэння Рэспублікі Беларусь Лідзія Савік.

- 24 лютага адбудзецца калегія Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, на якой будуць абмеркаваны сучасны стан і перспектывы развіцця нацыянальнага кінематографа.

- 25 лютага ў Мінскім доме афіцэраў — дабрачынная вечарына, прысвечаная памяці першага народнага артыста Беларусі Уладзіслава Галубка.

  У ёй возьмуць удзел вядомыя грамадскія і творчыя дзеячы, артысты Беларусі, Украіны, Расіі. Сродкі ад збору пойдуць на стварэнне помніка выдатнаму акцёру.

- 25 лютага ў Доме дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі будзе наладжана сустрэча пасла Літвы на Беларусі Альфонсаса Аўгуліса з літоўцамі, якія жывуць у нашай краіне.

- 25, 26 лютага ў Палацы культуры чыгуначнікаў будзе праходзіць першы Нацыянальны фэст аўтарскай песні «Залатая горка».

- У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адкрыта выстава беларускага мастака, які жыве ў Швецыі, — Яна Кузьміцкага. У экспазіцыі прадстаўлены жывапіс, графіка, скульптура.

## МІНСК — ДЖАЗАВЫ ГОРАД

25 лютага ў нашай сталіцы распачнецца міжнародны джазавы фэст «Мінск-94".

Напярэдадні падзеі прайшла прэс-канферэнцыя, якую правялі заснавальнікі фестывалю. Як адзначыў Міхаіл Фінберг — кіраўнік Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь (калектыў з'яўляецца адным з арганізатараў свята сучаснай музыкі), такога ўзроўню фэст праводзіцца ў нашай краіне ўпершыню. Раней падобныя джазавыя форумы адбываліся ў Расіі, Прыбалтыцы, Сярэдняй Азіі.

І вось джаз-фэст завітаў на Беларусь.

Хоць у нашай маладой дзяржаве эканамічная сітуацыя складваецца пакуль не лепшым чынам, дзяржаўныя арганізацыі і камерцыйныя структуры знайшлі сродкі і здолелі падтрымаць цікавую ініцыятыву. Гэта — Мінгарвыканкам, Міністэрства культуры Беларусі, Дзяржаркестр, Маскоўская джазавая асацыяцыя, АА МВТИ «ВИТТ» і АА «ГОСКО». Свой унёсак зрабілі фірмы «Тэхнадапамога», «Арэса-сервіс», «КанООО», канцэрн «Белгандальэкспарт», Магнатбанк, Прыорбанк. Галоўны спонсар — фірма «Хэлен-Валеры».

У Мінск прыедзе шмат сусветнавядомых музыкантаў. Сваё майстэрства пакажуць знакамітыя шведскія выканаўцы Руне Карлсан і Ларс Шосцен. Выступіць бельгійская група Філа Абрахама. Возьме ўдзел ізраільскае трыа Дані Готфрыда — музыканта і бізнесмена. 28 лютага адбудзецца канцэрт пасля фестывалю, на якім прагучаць творы ў выкананні джаз-ансамбля «Эскудэ» з Францыі, чыя творчасць знаходзіцца пад уплывам выдатнага музыканта Джанга Рэйнгарда.

На мінскім фэсце гледачы ўбачаць калектывы з Расіі —Дзяржаўны камерны аркестр джазавай музыкі пад кіраўніцтвам Алега Лундстрэма, дарэчы, самы старэйшы біг-бэнд у свеце, які ўвайшоў у кнігу рэкордаў Гінеса; «МКС-Бэнд», узначальваемы Анатолем Кролам; трыа Германа Лук'янава (Масква); вакальна-інструментальную групу «Дайджэст» (Санкт-Пецярбург); ансамбль джазавай музыкі «Зялёная хваля» Аляксандра Асейчука, калектыў «Ігар Брыль і новае пакаленне», трыа Льва Кушнера (Масква).

Паўночную суседку Літву на фэсце прадставіць група «Анусаўскас-квінтэт».

Другі фестывальны дзень будзе аддадзены беларускім калектывам, які з'явіцца прадстаўленнем нашых зорак — музыкантаў Дзяржаркестра, джазавай групы Барыса Бернштэйна, квартэта Ігара Сацэвіча. 26 лютага сваю музыку пакажуць прадстаўнікі эксперыментальнага джаза.

Фестывальныя канцэрты пройдуць у Белдзяржфілармоніі.

Наталля КІРПІЧЭНКАВА.

## ПАЛІТЫЧНЫ БАРОМЕТР

# ПЕРНІКІ КАНЧАЮЦЦА. ЗАСТАЕЦЦА БІЗУН?

Палкоўнік Замяталін, прэс-сакратар прэм'ера, днямі паўшчуваў беларускі друк за тое, што «журналистика туго переплетается с политикой». Быццам спрабуючы абвергнуць погляды шаноўнага прэс-сакратара, нашыя газеты на мінулым тыдні пастараліся асвятліць усебеларускі палітычны страйк максімальна абстрагавана і аб'ектыўна. З усмешкамі скептыкаў адносна «мітынговай дэмакратыі» і «мітынговай стыхіі» беларускія журналісты занялі пазіцыі незалежных назіральнікаў. І ў выніку радавы чытач — у разгубленасці.

«Рэспубліка», напрыклад, угледзела, што «бастуют единицы», а «бессрочная забастовка закончилась досрочно»; В.Ягорава з «Комсомолки» налічыла на плошчы тысячу чалавек; «Звязда» —ад чатырох да васьмі тысяч; «Свабода» мяркуе, што на пляцы сабралася больш за 10 тысяч страйкаўцаў.

Як вядома, лічба — справа не прынцыповая... Я ж на свае вушы чуў даклад «амапаўскага» чына ў мікрафон рацыі ў момант выхаду калон з Пляца Незалежнасці — «больше пяти тысяч человек». Нават калі без уліку некалькіх тысяч, якія далучыліся да маніфестантаў падчас руху па праспекце Скарыны выглядае на тое, што ў Мінску адбылося самае масавае выступленне насельніцтва за апошнія некалькі гадоў. І гэта нягледзячы на вялікі (паспрабуйце пастаяць хоць гадзінку!) мароз...

Нягледзячы на тое, што на многіх заводах рабочыя былі папярэджаны аб тым, што ўдзел у страйку будзе прыроўнівацца да прагулу з усімі наступствамі. Зразумела, губляць работу ў наш час мала ў каго знойдзецца жадання. І на тое, што на некаторых прадпрыемствах 15 лютага пачалі выдаваць заработную плату, якой рабочыя не бачылі некалькі месяцаў. На іншыя нечакана прывезлі камплектуючыя і матэрыялы, на некалькі дзён забяспечыўшы людзей працай. А дзе-нідзе пасярод тыдня проста аб'явілі выхадны: сядзіце, маўляў, дома ды Алімпіяду глядзіце.

Здзівіла пазіцыя афіцыйных прафсаюзаў. Падчас мітынгу нехта з рабочых параўнаў дзеянні прафкамаў у гэтыя дні з актыўнасцю незабыўнай памяці парткамаў. Хто-ніхто схільны тлумачыць гэта тым, што стомлены неспакойнымі апошнімі гадамі У.Ганчарык вырашыў не лезці на ражон і дачакацца прызначэння паслом у якую-небудзь краіну.

Дарэчы, дэпутат М.Расолька, занепакоены вялікай колькасцю сіл спецпрызначэння, спрабаваў дамагчыся ад кіраўніцтва горада адказу, ці павінен Саўмін неяк узгадняць дзеянні свайго АМАПу з «бацькамі» сталіцы, але ўцямных тлумачэнняў так і не атрымаў.

Але найвялікшую ролю ў гэтыя дні адыграў, безумоўна, Саўмін. Метады барацьбы са страйкам нагадвалі палітыку бізуна і перніка. Калі бізуном сталася афіцыйная прэса, міліцыя ды прафсаюзы, то пернікі раздавалі з Дома ўрада.

Тым часам, як многія, хто спадзяецца на рублёвую зону, узіраюцца ў небасхіл на ўсходзе ("Ну где же он, добрый доктор Айболит, то бишь Черномырдин"), расце незадавальненне ў колах прадпрымальнікаў. Збядненне народа, а таксама нявызначанасць сітуацыі ў эканоміцы прывялі да рэзкага зніжэння дзелавой актыўнасці. Знаёмыя камерсанты жаляцца на немагчымасць заключэння і выканання колькі-небудзь значных кантрактаў. Мільённыя долaравыя капіталы «новых багацеяў», якім дапамаглі не дэмакраты, а менавіта сённяшнія ўладары краіны (бо хто ж, як не яны, сёння пры ўладзе?) паціху пераводзяцца ад граху падалей бліжэй да Альпійскіх гор.

Вялікі рэзананс набыла ў гэтыя дні пазіцыя Генадзя Карпенкі. Мэр Маладзечна, якога нацыянал-экстрэмістам абазваць не павернецца язык нават у палкоўніка Замяталіна, гаварыў пра тое, што падстаў для канфрантацыі на Беларусі няма: ні ў палітычнай (неабходнасць змены ўлады відавочная), ні ў эканамічнай (рэформы давядзецца праводзіць усё роўна), ні ў сацыяльнай (галеча сярэднестатыстычнага беларуса дайшла да гранічнай мяжы) сферах. Супраць падобных захадаў — толькі ўрад і Вярхоўны Савет. Ці, інакш кажучы, пазіцыя ўрадавых колаў не мае пад сабой сацыяльнай базы.

Цікавым, хоць і выпадковым, уяўляецца ў гэтай сувязі эпізод падчас мітынгу ля ВС: на прапанову некага з прамоўцаў вярнуць да кіраўніцтва МУСам У.Ягорава міліцыянер побач са мной штурхнуў у плячо свайго таварыша: «Дык мо і нам далучыцца?..»

Цікавай, хоць зусім і не выпадковай, сталася і рэакцыя Мячэслава Грыба на перададзеныя яму патрабаванні маніфестантаў. Мне ўдалося праслухаць дыктафонны запіс той гаворкі, якая адбылася паміж спікерам і парламенцёрамі ад страйкаўцаў, сярод якіх былі і дэпутаты. Сэнс выказвання паважанага старшыні ВС быў наступны: «А я тут пры чым? Я Кебіча не прызначаў. Дэпутаты прапусцілі яго праз урны, за давер выказаліся. Хай яны і вырашаюць. І да "тэле" я адносін не маю (гэта на патрабаванне штодзённых 15 хвілін эфірнага часу для страйкама), да Сталярова звяртайцеся. А патрабаванні вашыя разгледзім на Прэзідыуме...»

У інтанацыях спікера (а мо мне і падалося?) чулася нейкая разгубленасць.

Сёння, калі ты, чытач, атрымаеш газету, ужо будуць вядомыя вынікі падзей 22 лютага. Стане зразумелым, наколькі пашырыўся за тыдзень страйк. Я, на жаль, магу пакуль толькі рабіць нейкія прагнозы.

Мне здаецца, што палітычнае процістаянне на Беларусі ўступіла, даруй за шахматную тэрміналогію, у стадыю эндшпіля. Канчатак гэты на першы погляд здаецца нічыйным, і ён, урэшце, можа і стацца такім, але ўсё залежыць ад белых. Калі ў чорных (урада) выйгрышных крокаў няма (хіба што зацягнуць час, пасоўгаўшы крыху па дошцы пешкай рублёвай зоны), то белыя (дэмакратычныя сілы) маюць вялікія шанцы на перамогу. Варта толькі не спяшацца, не рабіць памылак і не ўпусціць пераможных хадоў...

Максім ГІЛЕЎСКІ.



Фота Генадзя ЖЫНКОВА.



У хуткім часе Нацыянальная тэлерадыёкампанія і TV-тэатр АВВА пачынаюць цыкл тэлесерыялаў «Крымінальныя гісторыі». 28 лютага ў 19.30 адбудзецца прэм'ера спектакля «Журба — лёс Электры» паводле п'есы Юджына О'Ніла. У галоўных ролях Ганна МАЛАНКІНА (здымак 1) і Вольга ЛЕВАШОВА і Валерый БАНДАРЭНКА (здымак 2).



ЧАС
АСОБА
ЛЁС

# ЗА НАМІ СТАІЦЬ ГІСТОРЫЯ

*З народным мастаком Беларусі Васілём Пятровічам Шаранговічам, рэктарам Беларускай акадэміі мастацтваў, гутарыць наш карэспандэнт Галіна Булыка.*

**— Васіль Пятровіч, дазвольце пачаць гутарку з самага агульнага пытання. Ці існуе такая з'ява, як творчы працэс, мастацкі працэс?**

— Калі гаварыць пра творчы працэс, зніталваны з жыццём грамадства, то ў яго вельмі многа складнікаў: і творчасць пэўнай асобы, і стан грамадства, і час... Мастак выяўляе сваё разуменне свету, людзей, прыроды. Але ён робіць гэта не для сябе.

**— Мне здаецца, што ён працуе найперш для сябе, для душы, а ўжо потым узнікае жаданне адчуць іншых, іх «зваротную сувязь».**

— Можа быць, хто-небудзь з маіх калегаў і скажа, што творыць для сябе. Але я гэтага сказаць не магу. Кожны творца, хаця б у тайне, жадае, каб людзі ўбачылі яго ўяўленне аб падзеях і працэсах. Кожны чакае, як успрымуць ягонае разуменне жыцця, як яно паўздзейнічае на людзей, магчыма, далёкіх ад творчасці. Напэўна, мастацтва было б непатрэбным, каб мастакі стваралі толькі для сябе.

**— Як Вы лічыце: мастак творыць першаснасць ці адаптуе, прапускае праз сябе тое, што бачыць? Ён генератар ідэі ці праваднік яе?**

— З псіхалагічнага ці, можна сказаць, фізіялагічнага гледзішча мастак — такі ж чалавек, як усе, гэта значыць, ён успрымае прадмет такім, як ёсць. Але з пункту гледжання мастацтва ідзе яшчэ адзін працэс: творца, прапускаючы праз сябе рэальнасць, можа бачыць у ёй тое, чаго не бачаць іншыя людзі: нейкае знаменне, другую іпастась, нечаканае яднанне з'явішчаў. Мастак прапускае ўбачанае праз свае розум і сэрца, менавіта, падкрэсліваю, розум і сэрца, бо без розуму творчы працэс немагчымы, стварае нешта новае, праяўляе нябачнае для іншых.

Возьмем, напрыклад, жанр пейзажа. З дзесятак людзей будуць бачыць у карціне прыроды толькі самыя агульныя рысы. А мастак прыйдзе і пакажа, як трэба ўспрымаць. Дазволю сабе адзін успамінак. Было гэта даволі даўно, падчас адкрыцця ў Палацы мастацтваў выставы, прысвечанай 25-годдзю Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, у якім я тады працаваў «пачынаючым» загадчыкам кафедры. Наведала тую выставу колішняе бюро ЦК КПБ на чале з Пятром Машэравым. Я быў малады, шорсткі, таму, калі зайшла асабістая размова з Пятром Міронавічам, то я дазволіў сабе з многім не пагаджацца. Гутарка набыла даволі востры характар, у мой бок крыва пазіраў Ц.Кісялёў, але Машэраў, на здзіўленне, прапанаваў, каб далей я суправаджаў «групу» ў якасці экскурсавода. Мы ішлі, я сёе-тое тлумачыў, нарэшце спыніліся ля краявіда, на якім вада была рудога колеру. Машэраў павярнуўся да Кісялёва і сказаў: «Дык вось, Ціхан Якаўлевіч, ты заўсёды лічыш, што вада павінна быць блакітная, але ж яна бывае і іншая. Толькі мастакі гэта бачаць. Для таго, каб ведаць, якая бывае вада, трэба часцей сустракацца з мастакамі». У кожным чалавеку выхаваны «момант чаканага выніку», запраграмаванасці, што, калі неба — то абавязкова гэткае, калі вада — абавязкова такая... А мастакі — бачаць.

**— Ім дадзена бачыць. Вы многа працавалі ў галіне кніжнай графікі. Як адбываецца ілюстраванне: вобраз ідзе ад самога тэксту ці тэкст выклікае пэўныя асацыяцыі, якія і кладуцца ў аснову твора? Наколькі асабіста, самастойна працуе кніжны ілюстратар?**

— Гэта даволі складанае пытанне. Існуюць розныя падыходы. Ілюстраванне можа быць абсалютна адэкватным. Напрыклад, у кнізе напісана, што герой бярэ рыдлёўку і пачынае капаць. Ілюстратар малюе чалавека з рыдлёўкай. Ці многа мастацкага ў такім падыходзе? Напэўна, нямнога. Трэба адрозніваць і літаратуру. Адно — паэзія, зусім іншае — проза. А ёсць тэксты, за якія сапраўдны мастак і не павінен брацца, бо акрамя простага назірання за дзеяй чытанне мусіць выклікаць асацыяцыі, пэўныя думкі. Я лічу, што мастак павінен брацца толькі за тую літаратуру, якая нешта ўтрымлівае апроч тэксту. Калі кожны з нас нешта бачыць — у сваіх вобразах; згадваюцца бацькі, родзічы, дзяцінства... А з іншага боку, мастак не павінен адрывацца ад твора зусім, ён павінен зрабіцца інтэрпрэтатарам. Сто чалавек чытае кнігу. У кожнага ўзнікаюць свае ўяўленні. Мастак, як і ўсе, чытае кнігу, як і ўсе, мае сваё ўяўленне, але ўжо іншай якасці, у іншай ступені абагульнення. Ягоная задача — данесці свае ўяўленні, вобразы, каб яны супалі з як мага большай колькасцю ўяўленняў іншых чытачоў. Не з усімі — гэта немагчыма, але з большасцю. Чытач тады ці ўспрымае трактоўку мастака, ці стварае трэці вобраз, але ўжо на падставе тэксту і ілюстрацый.

**— Адчуванне літаратурнага твора, тым не менш, вельмі асабісты працэс.**

— Ну канешне. Колькі кніг мне прапаноўвалі ілюстраваць! Я чытаў іх і адкладваў убок — гэта не маё. Калі мы сур'ёзна кажам пра ілюстрацыю, а не пра «літаральныя карцінкі», то кніга павінна быць не толькі глыбока зразуметая мастаком, але і адчутая. Ён нібы сваё робіць, нібы сам пісаў.

**— Падобна да працы літаратурнага перакладчыка.**

— Так, пераклад можа быць тэхнічны, а можа быць і такі, калі побач з «душой» тэксту кладзецца душа таго, хто сродкамі іншай мовы змог выказаць тое ж самае, абудзіць такія ж адчуванні. Задача мастака аналагічная: ёсць тэкст і мусіць быць яго пераклад у выяўленчы рад. З яшчэ большай ступенню дакладнасці параўнаў бы функцыю мастака-ілюстратара з рэжысёрскай задачай. Рэжысёр чытае п'есу, напісаную драматургам, і ў яго ўзнікаюць уяўленні аб акцёрах, аб дэкарацыях, аб мізансцэне. І мастак імкнецца ўявіць чалавека, героя па апісанаму характару. Які будзе «тыпаж»? Ці гэта будзе буйны, кінематаграфічны план, ці масавая сцэна? Ці мацней «падзейнічае» абстрактны фон, ці канкрэтны?

**— Люстраную праекцыю гэтай думкі сфармуляваў рэжысёр Валерый Раеўскі, калі мы гаварылі пра пастановачны працэс. Ён сказаў: «Рэжысёр — той жа мастак, які малюе карціну з жывымі людзьмі».**

— А з іншага боку, мастак — рэжысёр кнігі. Ёсць тэкст, дзеі. Задача мастака-рэжысёра — расставіць акцэнты. Убранства кнігі — тое ж убранства сцэны. Многія рэжысёры малявалі і малююць. С.Эйзенштэйн маляваў усе мізансцэны, у нейкім плане ён выступаў як ілюстратар сцэнара, занатоўваў навечна галоўныя кадры.

**— Васіль Пятровіч, Вы многа зрабілі ў розных галінах выяўленчага мастацтва. Як Вам сёння бачыцца шэраг работ рознага часу, як бачыцца ўласны шлях? Калі выявіць яго ў матэматычных вобразах, «праверыць алгебрай», атрымаецца экспанента ці павольная лінія, якая ідзе ўверх?**

— Сёння я быў у мастацкім ліцэі, і там зайшла своеасаблівая гутарка. У адной дзяўчыны з прозвішчам Цвірко я запытаўся, ці не мае яна дачынення да Віталя Канстанцінавіча. А нехта мне і кажа: «Цікава, а як у такім узросце маляваў сам Цвірко? Цікава, а як Вы малявалі?» На жаль, ад таго часу нічога не захавалася.

Мне самому хацелася б зірнуць. Але з усіх маіх студэнцкіх работ амаль нічога не засталося. Заўсёды ўласныя працы здаваліся мне такімі кепскімі, што пасля прагляду я ўсё нішчыў і шчыра здзіўляўся, калі мне ставілі высокія адзнакі. Такі маю характар... Рабіў я і вялікія серыі, па многу гадоў працаваў. «Памяці вогненных вёсак», «Пан Тадэвуш»... Але калі я заканчваў працу, заўсёды хацелася аднаго: усё знішчыць і пачаць спачатку. Чаму я гэтага не рабіў? Пэўна, таму, што меў у грамадстве пэўныя абавязкі. Але заўсёды даваў сабе слова: «Што ж, тут нічога не атрымалася, новыя творы будуць лепшыя». Гэта надзея і павінна падтрымліваць кожнага творцу. Дарэчы, ёсць некалькі работ, якія я ніколі не выстаўляў. На серыю «Зямля Нарачанская» ў мяне была дамова з Саюзам мастакоў СССР, а я тую дамову скасаваў і карціны не прадставіў. Яны і цяпер у мяне ляжаць у майстэрні.

**— Сам аўтар, як сведчыць гісторыя мастацтваў, не валодае магчымасцю адэкватна ацаніць сваю працу. У яго суб'ектыўны погляд. Чалавек можа зрабіць толькі тое, што можа, а хоча бачыць тое, што хоча, што задумана.**

— Я сумленна прызнаюся, што праз многа гадоў неяк вырашыў адкрыць і паглядзець тую серыю і, праўду кажучы, пашкадаваў: а можа, дарэмна я калісь яе схаваў?.. Некалькі работ я маляваў нанова. Было і такое, што вяртаўся да ранейшых варыянтаў. Канешне, я згодны з Вамі, што той, хто творыць, сам сабе не крытык. Але ўсё ж аўтар — першы глядач сваіх твораў, а як жа тут утрымацца ад крытыкі? Творчы чалавек ніколі не бывае задаволены вынікам сваёй працы — болей недахопаў, чым ён сам, пабачыць ніхто не можа. Іншая справа — ці трэба выходзіць на вуліцу і крычаць: «Ай, як блага!..» Памятаеце, верш у Пушкіна ёсць пра мастака, які намаляваў Венеру? Калі гледачы ўжо хваляць палатно, сам жывапісец сумуе, бо ведае, бачыць, што мог зрабіць па-іншаму. Але ўсё зроблена... А прыклад Гогаля, які спаліў, магчыма, самы лепшы свой твор? Чаму ж спаліў? Бо не вытрымаў самакрытыкі — я так ацэньваю гэты гістарычны факт.

**— Ёсць яшчэ прыклад Франца Кафкі, які пакінуў запавет знішчыць усе рукапісы — але ў самога пісьменніка рука на тое не паднялася: магчыма, ён прцаваў над тэкстамі да апошніх дзён.**

— Гэта цяжка — знішчыць. Можна проста нікому не паказваць. Падчас творчага працэсу дамінуе адзіная думка: зрабіць як мага лепей. Каб творца ведаў, што атрымаецца ў выніку, то не ўзяўся б за пэндзаль ці аловак... І зноў прыходзіць ідэя, што, нарэшце, нешта будзе. Зноў гэтая ідэя пранізвае ўвесь працэс, але заўсёды самае цяжкае — фінал.

**— Драма пачатку і канца — адна з вечных тэм сусветнай літаратуры. У працы мастака яна, як мне здаецца, набывае дакладную трактоўку.**

— І кожны пачатак — гэта надзея, спадзяванне, і кожны канец — гэта расчараванне, бо ты не змог зрабіць таго, што хацеў.

**— Магчыма, і сам Гасподзь расчараваўся ў выніку сваёй творчасці.**

— Гэта і ёсць творчасць. Каб не было новай надзеі, не было б і творчасці.

**— Васіль Пятровіч, чаргаванне расчараванняў і спадзяванняў — праявы натуральных творчых крызісаў. А ці памятаеце Вы свой першы творчы крызіс?**

— Гэта быў крызіс іншага плана. Маляваць я пачаў, калі можна сказаць — сур'ёзна, з чацвёртага класа. Мяне вучыла мама, якая марыла стаць мастачкай, але мы з Заходняга краю, дзе беднаму чалавеку вывучыцца было немагчыма. Мама, хаця і была сялянкай, добра ведала літаратуру, знаходзіла час, каб маляваць, ткаць, вышываць. А я быў у школе, як ні дзіўна, вельмі здатны да матэматыкі. Я вельмі любіў гэтую навуку, цяпер, у больш сталыя гады, магу сказаць: таму, што мне падабалася ў матэматыцы абстрактнасць, а ў мастацтве канкрэтыка. Ад прыроды я і праўша, і ляўша. Адно раблю левай рукой, іншае — правай. Можа, у гэтым прычына такіх розных «густаў»? Калі я канчаў школу, настаўнікі ўгаворвалі мяне кінуць маляванне, якому я аддаваў ужо ўвесь вольны і нявольны час, і пайсці вучыцца на матэматыка, дзе мяне чакае нібыта вялікая будучыня. Але ў душы маёй панавалі вобразы роднага краю, мне хацелася маляваць людзей, побач з якімі я жыў. І я пайшоў вучыцца на мастака. Ці шкадаваў я калі-небудзь? Калі бачыў — не ўдаецца, не атрымліваецца, не тое, не так — згадваў школьныя гады і думаў: не туды пайшоў! Вось каб стаў матэматыкам, пэўна, дасягнуў бы сапраўдных поспехаў. І гэта былі не амбіцыйныя праявы, а рэха жадання, якое ёсць у кожнага — дасягнуць поспеху. Канешне, гэта было і ў мяне: зрабіць НЕШТА. Існуе падманлівая мэта —кар'ера. А мне марылася сказаць слова пра народ, пра нацыю. Я і сёння згадваю, як глядзеў у юнацтве на нашых мужычкоў, нашых жанчын у святы. Мне мроілася, што я занатую іх вобразы. Навокал жылі такія мудрацы, такія філосафы! Я з дзяцінства чамусьці не гуляў з дзецьмі, мне было цікава са старымі, я сядзеў на прызбе і слухаў, пра што яны гутарылі. Гэтыя людзі і былі «маёй радзімай», яны ў «мікра» ўвасаблялі ўсё. І тое ўжо была канкрэтыка.

**— У Вашых ілюстрацыях да «Пана Тадэвуша» мяне ўразілі жаночыя вобразы. Здаецца, Вам удалося стварыць амаль ідэальны беларускі антрапалагічны тып.**

— Так, сапраўды, вобразы шляхцічаў і паноў нагадваюць нашых сялянаў, толькі ў іншай вопратцы... А жанчыны... Яны атрымаліся падобныя да маёй дачкі, хаця я і не імкнуўся да гэтага. Я ніколі не рабіў партрэтаў з натуры, але ў маіх творах пазнаюцца маці, дачка, жонка, сястра. На вялікай літаграфіі «Жняя» паводле Я.Купалы ўсе чамусьці пазнаюць маю жонку. Але гэта не канкрэтны вобраз, гэта тып.

**— Псіхолагі распрацавалі тэорыю, згодна з якой пачуцці таксама ўзнікаюць толькі да людзей адпаведнага, сугучнага тыпу. Я бачу тут карэляцыю з творчым працэсам, з памкненнем увасобіць духоўна блізкія вобразы.**

— Гэта так. Але мужчынскія вобразы таксама не канкрэтныя, а хутчэй збіральныя, тыповыя. І такі падыход узнікаў ненаўмысна, сам па сабе.

**— Магчыма, гэта і ёсць народнасць, нацыянальнасць творчасці на генетычным узроўні, бо калі ставіць задачу выявіць нацыянальны тып, то атрымліваецца лубок.**

— Я і студэнтам заўсёды гаварыў, яшчэ ў тыя часы: глядзіце не павярхоўна на «нацыянальнае пытанне». Славяне, калі павярхоўна глянуць, аднолькавыя. Але ж я магу і чэха ад паляка адрозніць, і рускага ад украінца. Што ж характэрна для беларуса? Тып. Той тып, што пачынаецца ад прыроды. Наша прырода не мае вострых вуглоў. Пагоркі пакатыя, стромы — выключэнне. Напэўна, гэтая прырода стварыла вобраз чалавека з «незавостраным», «акруглым» характарам. Наш народ, у адрозненне, напрыклад, ад горскіх народаў, і больш разважлівы, і больш мяккі. Гэта, з аднаго боку, можа і блага, а з другога — можа і добра. У якіх іпастасях глядзець. Прырода і чалавек неразрыўнае, і як бы чалавек ні імкнуўся ўздзейнічаць на прыроду, прырода ў большай ступені ўздзейнічае на чалавека, яна фармуе, стварае народ, бо вызначае ўмовы жыцця, самога існавання людзей на працягу многіх гадоў, стагоддзяў, пакаленняў.

**— А мастак бачыць тып, вобраз, у якім, як у аскабалку крышталя, прасочваецца ўся будова, увесь народ. Мы не ведаем, якія канкрэтныя людзі жылі ў тую ці іншую эпоху, а мяркуем пра іх з карцін мастакоў. Так што мастацтва ў метафізічным плане больш рэальнае, чым жыццё, бо стварае, канцэнтруе «культурны пласт» часу.**

— Час, лёс, імгненне, вечнасць... Мы гаворым пра вечнасць. І гаворым пра вечнасць мастацтва. А што ж такое само мастацтва? Гэта спыненае імгненне — калі яно застаецца ў вечнасці, то гэта і ёсць кола жыцця, якое творыцца.

**— Зноў вяртаемся да матэматычнага вобраза кола без канца і пачатку, да вобраза, створанага розумам і пачуццём. Да цыклічнасці.**

— Высокае мастацтва Адраджэння таксама прыпынены міг часу, які застаўся ў вечнасці... І што б мы ні рабілі ў сённяшнім часе, за намі стаіць гісторыя, якая, урэшце, будзе разбірацца і з нашай творчасцю. Канешне, яна ў пэўнай меры «суб'ектыўная». Мы ведаем як пры жыцці ставіліся, прыкладам, да Ван Гога і што адбылося потым. Ці да Рафаэля, якога то забывалі, то абагаўлялі, то зноў забывалі.

**— Кола.**

— Кола ўспрымання рознымі часамі, бо ў кожнай эпохі свая эстэтыка і свае каноны — свае маральныя і духоўныя каштоўнасці. Але, тым не менш, я лічу, што, калі тым ці іншым мастаком, паэтам нешта зроблена, яно ў коле жыцця народа, чалавецтва займае пэўнае месца. Канешне, калі гэта зроблена таленавіта.

**— Тут ужо колькі каму Бог даў.**

— Талент цяжка ўзважыць. Гісторыя адбірае. Некалі на пленуме гаркама партыі, членам якога я быў і дзе мяне асвісталі і сагналі з трыбуны, я сказаў якраз наступнае: сёння мы не ведаем, што елі старажытныя грэкі ці рымляне, але мы ведаем, што яны стварылі. У тым і сіла мастацтва, у тым і ствaральны дух нацыі, што, як бы ні было — горш ці лепш, яно можа выразіць свой час і пакінуць яго гісторыі. Нашы палітыкі не разумеюць таго, што разумелі імператары і пратэктары: менавіта мастацтва адлюстроўвае час.

**— Акадэмія мастацтваў лічылася калыскай вольнай думкі, яшчэ калі была Тэатральна-мастацкім інстытутам. Васіль Пятровіч, Вы — рэктар, грамадскі дзеяч, але я хачу запытацца ў Вас найперш як у мастака. Якія асацыяцыі выклікае ў Вас бел-чырвона-белы сцяг? Вось гэты сцяг, што я бачу ў кабінеце?**

— Я не магу зусім не гаварыць пра палітыку, бо сцяг — гэта палітыка. І наш будынак — першы, над якім гэты сцяг лунаў яшчэ ў гады барацьбы за дэмакратыю. Дарэчы, я таксама быў у шэрагу барацьбітоў за дзяржаўнасць нашага сцяга... А мастацкі вобраз — гэта злучэнне колераў, памятнае з самай першай вопраткі, якую вясковаму дзіцяці апраналі яшчэ ў калысцы: кашулькі з белага-белага лёну з палоскай вышытага арнаменту пасярэдзіне. Аснову вышыўкі складаў чырвоны колер. Бел-чырвона-белае злучэнне ў мяне найперш асацыюецца з народнай вопраткай. А калі глядзець на сцяг упоперак, то ўзнікае вобраз ручніка. Як правіла, уся тэхніка беларускага народнага ткацтва — гэта палосы, белыя і чырвоныя.

**— Палосы абярэжнага арнаменту.**

— Так. Не магло быць лепшага маральнага, духоўнага і, я б сказаў, мастацкага сімвала ў Беларусі, як гэтае злучэнне колераў.

**— Вялікі дзякуй за размову. Безумоўна, мы закранулі далёка не ўсе тэмы. Можна было б гаварыць яшчэ і пра жыццё Акадэміі, і пра праблемы творчага чалавека ў наш нялёгкі час... Але, спадзяюся, што гэта гутарка будзе мець працяг.**

# БЫЛІ АБВАЛЫ, БЫЛІ ПАТОПЫ...

## Нацыянальная бібліятэка: барацьба за выжыванне.

*Прапануем увазе чытачоў гутарку за своеасаблівым «круглым сталом», у якой бралі ўдзел: Г.Алейнік — дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, І.Прылішч — намеснік дырэктара па навуковай працы і Т.Аксёнава, намеснік дырэктара па бібліятэчнай працы.*

Галіна АЛЕЙНІК:

— Ні крызісныя працэсы ў эканоміцы і палітыцы, ні ўсе тыя змены, што апошнім часам адбываюцца ў нашай рэспубліцы, ніякім чынам не адбіліся на колькасным складзе наведнікаў нашай Нацыянальнай бібліятэкі. Я сказала б, наадварот!

За мінулыя гады чытацкі кантынгент значна змяніўся. Сярод наведнікаў зараз менш сустракаецца навукоўцаў. Затое заўважна пабольшала студэнцкай моладзі. З ахвотай да нас ідуць навучэнцы каледжаў, ліцэяў. Магчыма, гэта і не зусім «наша» катэгорыя чытачоў, але ж улічваючы сённяшнія праблемы ў кнігавыдавецкай справе — і кнігараспаўсюджванні, Нацыянальная бібліятэка ўзялася і за гэтую задачу. З задавальненнем адкрываючы доступ у кніжныя скарбонкі, вітаем усіх сваіх наведнікаў і за кожнага з іх будзем змагацца!

Ірына ПРЫЛІШЧ:

— Так, за мінулыя гады адбылося шмат зменаў. Але самая вялікая заваёва нашага народа — набыццё незалежнасці, суверэнітэту — павярнулася да нас, супрацоўнікаў бібліятэчнай сістэмы, не лепшым бокам. Не сакрэт, што рынак завалены самай разнастайнай літаратурай, але мы адчуваем недахоп менавіта ў навукова-даведачнай літаратуры, што так неабходна чытачам. Таму мы, супрацоўнікі вядучых бібліятэк краін СНД, не раз звярталіся да сваіх парламентарыяў, каб тыя павярнуліся тварам да нашых праблемаў. Праблемаў, якія здаюцца на першы погляд не істотнымі ў параўнанні з палітычнымі і эканамічнымі пытаннямі. Самае страшнае, што нас можа напаткаць у будучыні — гэта бездухоўнасць, неадукаванасць (хаця такое выказванне стала даволі распаўсюджаным). Будзе страчаны інтэлектуальны патэнцыял народа, нацыі. І ўсе мы за гэта нясем адказнасць.

Г.А.:

— Вельмі часта мы сустракаемся з нядбайнымі адносінамі да інтэлектуальных дасягненняў народа — бібліятэк, музеяў. І як вынік... Вось толькі некалькі свежых прыкладаў. Прарвала вадаправод у музеі імя А.Пушкіна ў Санкт-Пецярбурзе, ад чаго шмат каштоўных экспанатаў атрымалі пашкоджанні. Зноў жа ў горадзе на Няве ў будынку Адміралцейскай бібліятэкі адбыўся пажар, які не маглі патушыць на працягу васьмі гадзін. Колькі ж каштоўнейшых кніг загінула там!

Канешне, Расія — вялікая дзяржава, дзе шмат бібліятэк і кожная з іх — індывідуальнасць. Але крый Божа, калі што здарыцца з нашай Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі! Яна ж —адзіная на ўсю рэспубліку ўкамплектаваная так поўна, што ў сілах не толькі самастойна існаваць, але і аказваць дапамогу іншым. Таму мы і павінны яе берагчы, і разумець яе каштоўнасць, якая не вымяраецца аніякімі мільёнамі рублёў.

А падстаў для хвалявання шмат.

Колькі ўжо было перагаворана пра размяшчэнне і захаванне фондаў, якія з-за адсутнасці агульнага памяшкання раскіданыя ледзь не па ўсім Мінску ў непрыстасаваных месцах. Мяркуйце самі. Частка знаходзіцца ў будынку былога партархіва, яшчэ адна ў ... падвале Тэатра оперы і балета. Арыгінальнае месца, нічога не скажаш! Два корпусы — цэнтральны даваенны, у якім яшчэ ні разу не праводзілася капітальнага рамонту, і больш новы, па вуліцы Кірава — перапоўненыя кнігамі і ўмяшчаюць больш за сем мільёнаў тамоў замест прадугледжаных трох. Інспектары пажарнай аховы жахаюцца, гледзячы, у якім аварыйным становішчы ўтрымліваюцца кнігі.

Тамара АКСЁНАВА:

— Праўда, плануецца хуткі пераезд кніг з падвала опернага на новае месца жыхарства ў будынак былога ПТВ, што на Партызанскім праспекце, рамонт якога зацягнуўся на доўгія тры гады. Але і гэта не здыме шэраг праблем. Такое становішча ўскладняе работу з чытачом. Вось за каго мы хвалюемся! Чаканне дэфіцытных кніг можа доўжыцца тыднямі. Бібліятэцы патрэбны свой будынак, пра будаўніцтва якога даўно ўжо вядзецца гаворка. Быў праведзены нават конкурс на лепшы праект. Але на бягучы год Мінфін не выдзеліў ніводнай капеечкі на далейшае яго ажыццяўленне. І чакаць яшчэ давядзецца немаведама колькі.

У Францыі, напрыклад, новы будынак для Нацыянальнай бібліятэкі быў пабудаваны за пару гадоў і цяпер у ім вядуцца інтэр'ерныя работы. Дарэчы, гэты будынак увайшоў ужо ў лік лепшых збудаванняў Францыі нароўні з Луўрам. Але, зразумела, Мінск — не Парыж.

Г.А.:

— Мы падпарадкоўваемся Міністэрству культуры. І цалкам знаходзімся на бюджэце, а значыць абмежаваны ў матэрыяльных сродках.


Кола дзён на мяжы стагоддзяў...

Але ў нас рабіліся пэўныя захады, каб перайсці ў падначаленне Вярхоўнага Савета. Такі вопыт ужо ў свеце існуе. У многіх заходніх краінах нацыянальныя бібліятэкі выконваюць функцыі парламенцкіх. А мы і зараз выконваем такія ж функцыі —забяспечваем інфармацыяй наш парламент, і для гэтага ў бібліятэцы створана адпаведная служба. Хаця справа не ў тым, каму належыць Нацыянальная бібліятэка. Галоўнае — якія будуць да яе адносіны.

Але праблемы фінансавання летась асабліва не існавала. Сёлета — сітуацыя іншая. Акрамя таго, кошт на кнігі не адпавядае прадугледжаным выдаткам. Рабіць падлікі і прыводзіць якія-небудзь лічбы ў час інфляцыі — марная справа. Што для бібліятэкі, напрыклад, мільён рублёў? Гэта каля пяці кніг, і то гледзячы якіх.

Што да фінансавання і набыцця замежнай літаратуры за валюту, то з гэтай праблемай мы сутыкаемся заўсёды. Яе выдзяляюць ў мізэрнай колькасці. Здавалася б, трацім грошы толькі на самыя неабходныя перыядычныя выданні. Але не можам набыць ні навуковую літаратуру, ні даведнікі, ні моўныя слоўнікі і многае іншае, без чаго цяжка абысціся чытачу.

І.П.:

— Праўда, становішча ў апошнія два-тры гады крышачку змянілася за кошт таго, што пашырылі міжнародны абмен, у якім зацікаўлены ўсе бакі. Мы падтрымліваем сувязі са 165 краінамі свету, у якіх знайшлі каля 280 партнёраў, што забяспечваюць нас літаратурай.

І ўсё ж мы спадзяёмся на рашэнне Савета Міністраў, з якім у нас вядуцца перамовы аб дадатковым валютным фінансаванні. Між тым, Нацыянальная бібліятэка яшчэ не атрымала патрэбных ёй грошай на 1994 год. А ўжо канец лютага. Мы пазбаўлены магчымасці набыць тое, што нядаўна выйшла ў свет. Гэта значыцца —зноў трэба рабіць нейкія захады, каб даўкамплектаваць фонд неабходнымі экземплярамі. А свайго валютнага рахунку бібліятэка не мае.

Г.А.:

— За кароткі тэрмін адзіны зладжаны механізм, які фармаваўся дзесяцігоддзямі, быў разбураны, а іншага выйсця ніхто не падказаў. Вось толькі адзін факт: банкі Беларусі адмовіліся прымаць грашовыя пераводы ў суседнюю Расію. Гэтым самым паставіўшы, можна сказаць, крыж на нашым супрацоўніцтве з расійскімі навуковымі інстытутамі, акадэміямі, інфармацыйнымі службамі. Мы не можам разлічыцца з Дзяржаўнай Расійскай бібліятэкай, былой маскоўскай Ленінкай. Практычна згубілі ўсіх сваіх адрасатаў. Праўда, па нашых настойлівых просьбах па некаторых пунктах Міністэрства сувязі пайшло нам насустрач. І былі прыняты адпаведныя пастановы, якія забяспечваюць прававы абмен кнігамі, прынамсі, былі зніжаны мытныя пошліны, цэны на паштовыя перасылкі. Уявіце сабе: кошт паслуг за адну перасылку перавышаў кошт самой кнігі!

Т.А.:

— Усе гэтыя праблемы ствараюць па таяннае напружанне ў калектыве. Адна з галоўных прычын — парушэнне перыядычнасці паступленняў, бо раней мы атрымлівалі амаль без праблем усё, што выдавалася на абшарах былога Саюза. А цяпер, каб атрымаць абавязковыя кантрольныя экземпляры, вымушаны скіроўвацца ў Маскву. У выніку — зноў пакутуе чытач.

Летась мы пачалі замацоўваць сваю аналітычную базу, бо і Нацыянальная бібліятэка таксама апынулася ў інфармацыйнай ізаляцыі. Калі раней з кніжнай палаты да нас дасылаліся спецыяльныя карткі па матэрыялах газет і часопісаў, то зараз гэтая добрая традыцыя страчана і мы збіраем інфармацыю ўласнымі сіламі. Зразумела, што, з аднаго боку, мы павінны прадаставіць чытачу любую інфармацыю ў поўным аб'ёме, але такая праца нам не заўсёды пад сілу. Бо добра вядома, які штат займаецца гэтым у Маскве, а які — у нас. У нас жа, як не дзіўна, усе новаўвядзенні адбываюцца без пашырэння кадравай сістэмы. Аналітычная ж праца — гэта перш за ўсё дасканалае вывучэнне ўсяго, што выходзіць у свет...

Г.А.:

— Вядома, з ростам цэнаў і зніжэннем узроўню матэрыяльнай забяспечанасці насельніцтва грамадзяне СНД апынуліся ў інфармацыйнай ізаляцыі. Статыстыка гэта пацвярджае. І людзі цяпер спяшаюцца ў чытальныя залы. Але мы не заўсёды ў сілах наталіць гэты голад. З павелічэннем колькасці наведнікаў у Нацыянальнай бібліятэцы рэзка знізілася выдача кніг.

Раней мы атрымлівалі два бясплатныя абавязковыя экземпляры кніг з былой Усесаюзнай кніжнай палаты і Цэнтральнага калектара навуковых бібліятэк, мелі магчымасць фармаваць нашы фонды. Тое, што заставалася, дзялілі паміж іншымі бібліятэкамі. А ў першую чаргу дапамагаем дзіцячым бібліятэкам. Афармляем падпіску на беларускія газеты і часопісы. Бо разумеем, што не адной толькі нашай, Нацыянальнай, трэба падтрымліваць сваю марку і прэстыж. Дапамагаем, чым можам: аўдыявізуальным матэрыялам, слайдамі, тэкстамі па беларускаму мастацтву, бо паасобку — не выжыць.

Вырашылі працягваць такую добрую традыцыю і ў гэтым годзе. Бо ёсць шмат цікавых матэрыялаў, якія адсутнічаюць у правінцыі.

І.П.:

— Зараз ідзе сапраўдная барацьба за выжыванне. Ёсць сёння сярод нас прыхільнікі платнага карыстання бібліятэкамі. Ці можна сабе такое зараз уявіць? За ўваход — плаці! Зазірнуў у каталог — плаці! На кожным кроку! Гэта абсурд. Да такога нашы бібліятэкі мы не дапусцім. Хто нашы наведнікі? Моладзь, студэнты, — адна з самых малазабяспечаных частак насельніцтва. І дарога да ведаў для іх будзе закрыта. А яны ж нашы будучыя інтэлектуальныя сілы.

Сёння мы вымушаны выконваць дадатковыя платныя паслугі: ксеракопіі, перазапіс дыскаў. Але вырučаныя грошы (дарэчы, яны таксама абкладаюцца падаткамі), нам, так бы мовіць, «надвор'я не робяць» і з'яўляюцца дадаткам да бюджэту. Дадатак гэты складае долі працэнта. З такімі грашыма не пашыкуеш...

Г.А.:

— Так ужо павялося, што супрацоўнікаў бібліятэк адносяць да ліку кансерватараў. Але мы гэта разумеем у лепшым сэнсе слова, бо, што тычыцца кансерватызму ў адносінах да назапашванняў фондаў — то гэта толькі адна з нашых шматлікіх лепшых якасцяў. Але і мы не стаім на месцы.

Удалося значна ўдасканаліць работу з чытачамі дзякуючы ўвядзенню ў бібліятэцы унікальнай у сваім родзе ў СНД сістэматызаванай лініі па апрацоўцы літаратуры, стварэнню электроннага каталогу. Бібліятэкар ужо выступае ў якасна новай ролі, што раней было немагчыма нават уявіць. І гэта толькі першы крок. Наша задача на будучыню — стварэнне з дапамогай аўтаматызацыі каталога па ўсяму нашаму нацыянальнаму фонду цэлага блока па мастацтву і літаратуразнаўству Беларусі. Больш таго, нашы думкі ідуць яшчэ далей. Мяркуем стварыць такую базу дадзеных, куды будзе ўключана не толькі тая літаратура, што выйшла ў нашай рэспубліцы, але і за яе межамі, і па змесце мае дачыненне да Беларусі. І зноў жа для шырокай аўтаматызацыі патрэбны грошы...

Сёння прызначэнне сваё мы бачым не толькі ў зборы і прадастаўленні інфармацыі. Нацыянальныя бібліятэкі існуюць для таго, каб забяспечыць нацыю духоўнымі ведамі, захаваць тое багацце, што назапашвалася дзесяцігоддзямі. І, зразумела, выжыць у адзіноце, без падтрымкі урада і грамадства немагчыма.

Запісаў
Міхась РЭВУЦКІ.




# «ПЕРАКЛАДЧЫКІ — ЯНЫ АД БОГА»



*Пераклад — гэта заўсёды праблема. Для кожнай культуры. Для нашай, і сёння — тым болей. Сваё разуменне гэтай праблемы ў рубрыцы «Пераклад філасофіі і філасофія перакладу» ўжо выказалі Васіль Сёмуха і Іван Чарота. Гэтым разам на пытанні «ЗНО» адказвае Лявон БАРШЧЭЎСКІ.*

*— Спадар Лявон, ходзяць чуткі, быццам Баршчэўскі ведае безліч моваў. Наколькі гэтыя чуткі адпавядаюць сапраўднасці?*

— Наконт «ведае» — гэта пэўнае перабольшванне. Хаця для мяне ніводная еўрапейская мова, акрамя венгерскай ды фінскай, не ёсць загадкай. Калі мне ў рукі трапляе нейкі невялікі тэкст, то я досыць хутка магу ў ім разабрацца настолькі, каб гэтага хапіла для перакладу. Але грунтоўна я вывучаў нямецкую і ангельскую (у інстытуце), французскую, чэшскую, шведскую (самастойна). Ад шведскай блізка да нарвежскай, я ёй нават спецыяльна не займаўся... І гэтак далей.

*— З якіх моваў Вы найбольш перакладалі?*

— З нямецкай (Гётэ, Шылер, Гейнэ, іншыя паэты...). Далёка не ўсё яшчэ апублікавана. Дарэчы, прозу я не збіраўся перакладаць, але потым неяк падахвоціўся перакласці Генрыха Бёля, якога я ведаў дасканала, і таму гэтая праца абышлася без звычайна неабходнай у такіх выпадках падрыхтоўкі.

У сувязі з патрэбамі Беларускага гуманітарнага ліцэя, дзе я працую, давялося рабіць пераклады і з лаціны, і з грэцкай (урыўкі з Авідыя, Вергілія, падборка вершаў Сапфо і «Прыкуты Праметэй» Эсхіла). Грэцкае мовы я дасканала не ведаю і таму быў вымушаны звяртацца за парадамі да спецыялістаў... Рабіў пераклады з літаратуры сярэднявечча (старанямецкая мова), цяпер «рыхтую» Кафку... А вось з ангельскай мовы я не люблю перакладаць. Гэта мая самая не любімая мова. Не люблю яе за размытасць, недакладнасць значэнняў, чаму прычынай яе шырокая распаўсюджанасць... Не люблю, але перакладаць даводзілася: досыць многа вершаў, трохі Байрана, Бэкэта (як вядома, ён пісаў і па-французску і па-ангельску)...

*— Дзякуй, спадар Лявон, але давайце перапынімся з пералікам і звернемся да праблемаў. Неяк Вы казалі, што ніякага Адраджэння не адбудзецца, пакуль мы не засвоім у сваёй мове ўвесь корпус адметных тэкстаў, напрацаваных чалавецтвам. Цяжка з гэтым не пагадзіцца, толькі... Ці магчыма такое нават у самай аддаленай перспектыве? Можа, нам трэба было б вылучыць нейкія пэўныя культуры і засяродзіцца на трансляцыі духоўных здабыткаў толькі адсюль?*

— Чалавек мяркуе, а Бог рахуе. Мы можам вызначаць, меркаваць, але калі ў нас, да прыкладу, не будзе знаўцы вельмі патрэбнай нам сёння чэшскай літаратуры, якая практычна адраджалася з нуля, то ўсе нашыя стратэгіі адпачатку стануцца нічога не вартымі. Перакладчыкі — таленавітыя, высокапрафесійныя —яны ад Бога, яны не прыходзяць на заказ. Можна выбраць нейкую культуру і паспрабаваць звярнуць на яе ўвагу перакладчыкаў, але ці будзе з гэтага плён? Ну, нейкі, безумоўна, будзе. Усё ж такі той ці іншы твор пераўвасобіцца па-беларуску, ды і псіхалагічна — «у нас таксама ёсць», аднак...

Ведаеце, як бы мы не імкнуліся арганізаваць гэты працэс у загадзя вызначаную стратэгію, ён пераважна застанецца неарганізаваным. Натуральна, не лішне арыентаваць, асабліва маладых перакладчыкаў. Толькі асноўнае створыцца само сабой, калі мы зможам зрабіць усю нашу адукацыйную сістэму беларускай, калі беларуская культура будзе прысутнічаць усюды і ва ўсім. Тады і перакладчыкі пачнуць з'яўляцца — у геаметрычнай прагрэсіі. Яны, узгадаваныя без комплексаў да мовы, будуць арыентавацца на пэўныя культуры і свядома рабіць свой выбар.

З іншага боку, — вяртаючыся да пачатку пытання, — безумоўна, няма сэнсу імкнуцца ахапіць усё. Дзесяцімільённая нацыя не можа даць нам мільёна перакладчыкаў, якія сёння патрэбныя, каб раптам скампенсаваць не зробленае папярэдне (я ўжо не кажу пра праблемы друку, чытацкай магчымасці і да т.п.). Таму гаворка павінна весціся пра нейкія канцэптуальныя тэксты, пра нейкую аснову любой культуры. З гэтага трэба пачынаць, а там, дзе пачатак пакладзены, — у гэтым накірунку працягваць.




*— Пэўна, Вы маеце рацыю, і неяк арганізаваць «стыхію» перакладу сёння наўрад ці ўяўляецца магчымым. Але ўсё ж такі, на якія культуры Вы лічылі б мэтазгодным скіраваць увагу ў першую чаргу?*

— Без французскай, нямецкай, ангельскай мы не абыдземся. Што б там хто ні казаў — гэта аснова еўрапейскай культуры. І жахліва, што ў нас няма прафесійных перакладчыкаў з ангельскай мовы... Затым нашыя суседзі, палякі найперш. Культурна мы з імі размежаваліся, калі з'явіўся Багушэвіч. Ён першы сказаў: — Беларусы! А да гэтага існаваў толькі краёвы патрыятызм і культура, якая не была саматоесна вызначанай. Я б праілюстраваў гэтую думку наступнай высновай: да 1863 года Адам Міцкевіч цалкам «наш». Да паўстання ён і не мог успрымацца іначай, а вось праз дзесяць-пятнаццаць год пасля паўстання, калі «з'явіліся» беларусы і пачалося адмежаванне ад польскай культуры, Міцкевіч хаця і заставаўся па-ранейшаму «нашым», але ўжо як бы не зусім, ды і не толькі «нашым»...

На жаль, польская літаратура, нават класіка, намі не засвоеная. Гэта тым болей дзіўна, што ў нас даволі літаратараў, у якіх няма праблемаў з польскай мовай. Што да прыбалтаў, то тут я не маю вялікай эйфарыі. Усё ж такі польская і руская культура нам значна бліжэй, чым балтыйская і ўкраінская. Культурны кантакт з Расіяй нам неабходны ўжо хаця б таму, што Расія, хай сабе і ў іншых формах, часткова асэнсавала і наш вопыт.

*— Дарэчы, пра Расію. Яе магутная індустрыя перакладу калі яшчэ і не пераклала ўсё больш-менш вартае, то неўзабаве перакладзе. Адсюль паўстае вядомая праблема: ці трэба нам перакладаць тое, што перакладзена па-расійску?*

— Я думаю, мы сёння на тым этапе, калі трэба перакладаць тыя тэксты, якія спрыяюць выхаванню новай нацыянальнай інтэлігенцыі. І яны, якія прыйдуць нам на змену, вырашаць гэтае пытанне. З другога боку, у сусветнай культуры ёсць шмат тэкстаў, якія нас могуць цікавіць інакш, чым, скажам, тую ж Расію. На такія тэксты ў нас арыентацыя павінна быць заўсёды. Згадаю толькі адзін прыклад — незавершаную драму Шылера «Дзмітрый», сярод галоўных герояў якой — Леў Сапега.

*— Спадар Лявон, перш чым запытацца яшчэ, дазвольце працытаваць Ваша выказванне на дыскусіі па праблемах нацыянальнай філасофіі, якая была арганізаваная газетай «Культура» летась: «У нас пакуль няма добра распрацаванай філасофскай мовы. Да марксісцкага перыяду філасофскай літаратуры ў нас было зусім мала, а падчас панавання марксісцкай філасофіі і апошняе было страчана. Філасофскае слова згубіла свой сэнс. І таму фактычна і тут мы павінны ствараць новыя словы. Для гэтай справы падаецца прыдатнай праца над перакладамі класікі». Адсюль пытанне: — Вы сёння згодныя з тым сваім леташнім выказваннем?*

— У нас сёння гаворка ідзе ў іншым кантэксце, і таму я мушу інакш сфармуляваць сваё разуменне праблемы дапасавання беларускай мовы да перакладу. Я ўпэўнены, што сучасная беларуская мова больш прыдатная для перакладу, чым, скажам, руская. Наша мова яшчэ не ўнармаваная, не загнаная ў норму, і адсюль вынікаюць яе больш шырокія магчымасці. Да таго ж я лічу, што ў пэўных момантах нашае слова можа перадаваць сэнс нават глыбей, чым слова арыгінала. Таму асаблівых праблемаў з перакладамі літаратурных тэкстаў я не бачу. Трохі іншая справа з тэрміналогіяй, у прыватнасці з тэрміналогіяй філасофскай. Тут, на мой погляд, пытанні пакуль застаюцца. Але яны часовыя і цалкам вырашальныя. Таму не трэба іх гіпертрафіраваць. Урэшце, пераклад — гэта заўсёды несупыннае пераадоленне, бясконцае набліжэнне да арыгінала, да якога ўсутыч ніколі не наблізішся...

*— Дзякуй за гаворку.*

**З Лявонам Баршчэўскім гутарыў В.А.**

---

Франц КАФКА

# П О К А З К І

## ГАРАДСКІ ГЕРБ

Спачатку на будаўніцтве Вавілонскай вежы ўсё збольшага было ў парадку; можа нават парадку таго было замнога; занадта шмат увагі аддавалася шыльдам, перакладчыкам, жыллёвым умовам будаўнікоў, пад'язным дарогам — быццам бы наперадзе былі яшчэ стагоддзі, калі будзе можна, ні пра што не думаючы, працаваць. Часамі пачынала панаваць нават думка, што вежу нельга будаваць вельмі марудна; не варта было перабольшваць аўтарытэту гэтае думкі; сёй-той палохаўся ўвогуле самой ідэі класці падмуркі. Тлумачылі гэта так: сутнасць усяе задумы — гэта каб пабудаваць вежу да самага неба. Побач з гэтаю думкаю ніводная іншая не магла мець істотнага значэння. Гэта ідэя, што калісь узнікла ўва ўсёй сваёй велічы, знікнуць ужо не можа; пакуль жыве на свеце чалавек, будзе існаваць імкненне і жаданне дабудаваць вежу да канца. З гэтага пункту гледжання не павінна быць аніякіх турбот адносна будучыні — наадварот, чалавецтва набывае новыя веды, дойлідства мае вялікія поспехі і будзе прагрэсіраваць і надалей, работа, на якую цяпер патрабуецца год, праз сто гадоў будзе, магчыма, рабіцца за паўгода, пры тым —лепш і больш надзейна. Таму — навошта сёння выпінацца з жылаў? У гэтым сэнсе быў бы сэнс, калі б можна было спадзявацца збудаваць вежу пры жыцці аднаго пакалення. Але разлічваць на гэта нельга было ні ў якім разе. Хутчэй можна было думаць, што наступнае пакаленне, маючы больш дасканалыя веды, палічыць працу мінулага пакалення за дрэнную і пабурыць збудаванае, каб распачаць усё нанова. Ад гэткіх думак сіл не большала, і пра будаўніцтва вежы думалася менш, чым пра будаўніцтва горада для рабочых. Кожнае зямляцтва жадала атрымаць лепшыя кватэры, праз гэта ўсчыналіся спрэчкі, якія выліваліся ў жорсткія бойкі.

(Працяг на стар.6)






Сяргей ШЫЛАЎ

# ЧАС І БЫЦЦЁ



Сяргей Шылаў, аўтар рамана «Час і быццё» (ратапрынт ПКТБ Дзяржкамархбуда Беларусі, Мінск, 1992г.) вядомы чытачу газеты «Культура» па гутарцы з ім, як з наместнікам генеральнага дырэктара фінансава-інвестыцыйнай карпарацыі «Альбаград» (N33, 24 жніўня 1993г.), Юрася Барысевіча. Дарэчы, у прыватнай размове Юрась Барысевіч неяк выказаўся пра «Час і быццё» (не без дапамогі Мікалая Гогаля) прыкладна так: «Не кожная птушка даляціць да сярэдзіны гэтага рамана».

Сапраўды, раман практычна не чытэльны ў тым сэнсе, што замест традыцыйнай логікі раманных падзей прапануе чытачу прыняць удзел у гульні пакручастай логікі падзей мыслення, якое тут выступае як у якасці героя рамана, так і адзінай татальнай падзеі. А паколькі гэтая пакручастая логіка мыслення герметычна зашчэпленая аўтарскім «Я», то чытач рамана апынаецца ў ролі грамафона, які толькі агучвае запісаны на кружэлку тэкст, нічога ў ім не разумеючы. І хаця Сяргей Шылаў у «Пасляслоўі» (схаваўшы сябе пад прафесара Інстытута рыторыкі П.І.Дэрыба) не без самаіроніі сцвярджае, што ўсе «незразумелькі» ў рамане «... аўтар справядліва звязвае з эгаізмам і няўдзячнасцю сучасных маладых людзей», было б куды больш справядліва папракнуць у эгаізме самога аўтара, якога абыходзяць тыя праблемы, што паўстаюць перад чытачом ягонага рамана. Але мы не скарыстаем такую магчымасць, бо праблема не ў чытэльнасці (ці нечытэльнасці) таго ці іншага твора, а ў нечытэльнасці ўсёй той літаратуры, якая шукае сябе за абсягам белетрыстычнага. Яна — факт «канца літаратуры», што паслядоўна вынікае з факта метафізічнага «канца чалавека» (адзіна магчымай прасторы літаратуры, якая непазбежна згортваецца ў нішто пры ўмове адсутнасці чалавека).

Як і ўсё, што «памірае», гэтая літаратура (нават у такіх маладых літаратараў, як Сяргей Шылаў) быццам нямоглая старэча нешта мармыча сабе пад нос, ужо і не спадзяючыся, а таму і не маючы намеру, і нават жадання, каб нехта пачуў гэтае мармытанне. Але калі мы ўсё ж такі паспрабуем прыслухацца, то зразумеем, што ў гэтым прамармытванні былога адбываецца, навобмацак, росшук слядоў тых слядоў, якія быццё чамусьці прамінула, пакінула ў небыцці і, магчыма, дарэмна, бо, не выключана, каб з іх узрастала парадыгма часу, то мы не мелі б сёння татальнага крызісу мыслення.

Прыкладна вось гэта мы і пачуем, калі набярэмся цярпення і ахвоты праслухаць раман-кружэлку Сяргея Шылава. Яго тэкст —пра мысленне, што знаходзіцца ў прамежку паміж часам і быццём, пра праміианне мысленнем прамежку паміж часам і быццём, але не пра сам час і не пра само быццё, а менавіта пра прамежак паміж імі і спробу мыслення адбыцца тут, спробу катэгаравання мыслення ў гэтым прамежку, каб такім чынам неяк вызначыць ягоную наяўнасць і ўжо адпаведна гэтай наяўнасці яго, прамежку, уласныя час і быццё (і разам з тым наяўнасць самога мыслення)...

Але адначасна раман Сяргея Шылава гэта і спроба рамана пра чалавека як «падзею быцця». Наколькі такое магчыма ў прынцыпе? Думаю, што наўрад ці ў каго і калі атрымаецца напісаць паўнавартасны раман пра нешта яшчэ, акрамя як пра чалавека «як падзею чалавека», бо з усіх жанраў літаратуры раман — самы «чалавечы» жанр, і ён настолькі ж немагчымы без чалавека, як і чалавек сам без сябе.

Што з гэтага вынікае? Якраз адваротнае. У сітуацыі «канца літаратуры» якраз тыя, што «забыліся» на магчымасці магчымага і свядома працуюць у ідэалогіі *апошняга тэксту*, робяць нешта рэальнае, каб прарвацца да іншага пачатку (калі ён хоць як верагодны), іншага, можа быць, не лінейнага пісьма/мыслення, каб ужо там, у віры нераставання знакаў намацаць другую, больш жыццядайную парадыгму быцця/мыслення.

Таму зусім невыпадкова, што Сяргей Шылаў дэкларуе пераадоленне постмадэрнізму ў бок Новага Асветніцтва (праўда, гэтаму прычынай можа быць і звычайнае для маладосці: «я яшчэ не жыў», «я яшчэ жыць хачу»), хаця рэальна дзеіць свой тэкст у эстэтыцы постмадэрнізму, спрабуючы рэалізаваць літаратурнымі сродкамі філасофскую кампазіцыю Дэрыда, якую прынята пазначаць словам «дэканструкцыя».

Прадстаўляючы чытачам «ЗНО» раман Сяргея Шылава «Час і быццё», мы не забыліся пра ўплыў на раман сітуацыі постмадэрнізму і згодна гэтай сітуацыі прапануем спачатку пазнаёміцца з «Пасляслоўем», а затым з некалькімі першымі старонкамі рамана, якія, па сутнасці, сам з'яўляецца пасляслоўем да тых дэкларацый, што выкладзеныя ў «Пасляслоўі».

**Валянцін АКУДОВІЧ.**

## ПАСЛЯСЛОЎЕ

### Раман «ЧАС І БЫЦЦЁ» — энцыклапедыя дэканструкцыі

Мысленне цяпер характарызуе дэканструкцыя. Дэканструкцыя ёсць спекуляцыя інтэлектуальнай уласнасцю, яе адстойванне, адчужэнне і прыўлашчванне на ўмовах канструявання ў канціянска-гусэрлеўскім разуменні значымасці былога ўласніка. Дэканструкцыя ёсць прыватызацыя інтэлектуальнай уласнасці часовымі аўтарамі. Дэканструкцыя не ёсць разбурэннем метафізікі. Дэканструкцыя ёсць *метафізікай, якая разбураецца*. Рэчаіснасць дэканструкцыі ёсць рэчаіснасцю канца метафізікі, падзеннем граматычных асноваў ва ўспрымаючым мысленні. Што ў нашай краіне творыцца ў эканоміцы, тое на Захадзе адбываецца ў мысленні. Адмаўленне мыслення ад метафізікі, без сапраўднай альтэрнатывы, выклікала дэканструкцыю — тэхніку самазнішташэння метафізікі, пераварочванне метафізікі з боку сэнсу на бок паняційных значэнняў і захаванне яе, наколькі гэта магчыма доўга ў такім стане аж да наплыву значымасці да мыслення, паколькі ў дэканструкцыі адкрываецца поўная воля распараджэння мовы мысленнем, традыцыяй. Дэканструкцыя ёсць інстынкт смерці метафізікі, імкненне да смерці метафізікі, быццё-да-смерці метафізікі.

Дэканструкцыя заўсёды ёсць таксама ўтойванне само па сабе, знешні выгляд утойвання, якое адстойвае інтэлектуальную ўласнасць, комплекс комплексаў, пэўнага роду комплекснай лічбай, адмоўны абсалют, што адкрывае прычыну комплексу і закамплексаванай сутнасці, як адчужэнне інтэлектуальнай маёмасці і адплату за гэтую дзею.

Пераадоленне метафізікі непасрэднае як пераадоленне дэканструкцыі, дэканструкцыя самой дэканструкцыі, што раз'ядноўвае, разбірае яе на часткі як нейкую структуру. Асэнсаванне ўсяго гэтага і папярэднічае сапраўднасці рэформы літаратуры. Твор «Час і быццё» ёсць творам дэканструкцыі самой дэканструкцыі. Ягоная літаратурная форма — ісва чытання, якому бачная няўтоенасць пярэдадня асэнсаванасці рэформе літаратуры пасля знікнення ўтоенасці самой па сабе ў сваіх уласных высілках. Раман традыцыйны. У ягонай задуме — гісторыя маладога чалавека, накіраванага выконваць вайсковы абавязак, якая пераказваецца як гісторыя ягоных паняццяў. Перад намі класічная сітуацыя дэканструкцыі: «... калі прачнуўся ў самім сабе, у самасвядомасці, у мысленні, ён (малады чалавек) апынаецца ў гушчары жывых мерцвякоў» (М.К.Мамардашвілі). Выкананне вайсковага абавязку і стратэгія дэканструкцыі пазбаўляецца якіх-кольвек адрозненняў паміж сабой з цягам аповяду, тым самым выяўляючы адрознасць маладога чалавека-аўтара ад самога сябе.

Сапраўдныя аспекты-моманты сюжэта выяўляюцца чыстымі элементамі мовы, слядамі гэтых элементаў, слядамі слядоў, і тым самым робяца ў гэтым казанні самі сабой, падзеямі, перастаюць быць часткамі літаратуры, прынамсі, у вузкім яе разуменні. Разам з тым чымсьці іншым раман распачынае параўнанні ("У мове ёсць таксама тоеснасці") з сасюраўскім «У мове ёсць толькі адрозненні». Гэтае нешта іншае — голас аўтара, што адпачатку дамінуе ў пісьме, як у асяродку адрозненняў, успрыняццяў голасу аўтара, якія ўжо не ёсць сам голас.

Адрозненне галасоў аўтара (як нейкай непасрэднай рэчаіснасці) і ўспырняцце голасу аўтара (кнігі як калекцыі адрозненняў) і ёсць структура гэтага твора.

Тэма рамана (здольнасць аўтара да яе задумвання і здзяйсненне) у гэтым творы — перапляценне фрагментаў гісторыі маладога чалавека з элементамі мовы, якія (калі іх вытлумачыць у якасці здольных пакідаць сляды, г.зн. існуючых), пакідаюць іх ужо ў свядомасці чытання, якое адчувае тое, што адчувае малады чалавек падчас сваёй гісторыі. Гэта расейскае — ёсць усё ж такі тоеснасць у мове! — гучыць з рамана.

Пафас рамана — «захаванне адчування ўласнага жыцця разам з традыцыяй у вопыце расказвання пад моўным покрывам жыццёвай сітуацыі нежыццёвых і нецялесных прыкмет» (М.К.Мамардашвілі). Ён (пафас) таксама ў тым, каб «пакінуць усё у дакладнасці, як яно ёсць» (Вітгенштэйн), у тым ліку і паўнату жыцця.

Пісаць — гэта «пакідаць усё ў даклад-

Юры БАРАНЧЫК

# ЦЕНЬ ТЭКСТУ

### (У гонар Першастваральніка)



*Тэма гэтага эсэ — пытанне пра тое, якім чынам інтэлігібельныя па сваёй сутнасці рухі розуму, спачатку нават нябачныя для нашага «Я», затым цьмяна выяўленыя і стаўшыя прадметам яго рэфлексіі, нарэшце здзяйсняюцца ў творах культуры? Гэтае пытанне не сёння ўзнікла. Як вядома, існуе два пункты погляду адносна таго, ці з'яўляецца ў свеце веды нешта новае. Адныя (Платон, Лейбніц, Вітгенштэйн) мяркуюць, што заўсёды прысутнічае пэўная колькасць ідэй, якія існуюць вечна, не знікаюць і не з'яўляюцца. Прыхільнікі гэтае тэзы сцвярджаюць, што ўсялякая новая пастаноўка праблемы ёсць толькі сфармуляваная іншым чынам старая і што задача аўтара не ў пошуках «свежых» ідэй, а ў пошуках новай формы, у якой можна інакш выявіць тую ці іншую ўжо прысутную ў свеце ідэю.*

*Другія, да іх ліку можна аднесці Бэкана, Канта, Попера, мяркуюць, што новае веданне магчыма і пытанне застаецца адно ў тым, на падставе якога метаду мы можам адрозніваць навуковае веданне ад ненавуковага, старое ад новага. Гэтая спрэчка доўжыцца да нашых дзён: кожны з бакоў вынаходзіць дадатныя аргументы на сваю карысць. У кантэксце згаданай спрэчкі знаходзіцца і ніжэй пададзенае эсэ, у якім прысутнічае яшчэ адна істотная «сюжэтная» лінія — як вярнуцца ад ужо здзейсненага «акта культуры» назад, да выклікаўшага яго «акта жыцця»? Як пазбавіць твор культуры статычнасці і нерухомасці ўжо рэалізаваўшых сябе інтэрпрэтацыйных структур? Можна было б паспрабаваць адказаць на гэтае пытанне тэарэтычным пісьмом. Але можна пайсці іншым шляхам, а менавіта: высветліць, якая падзея з жыцця аўтара легла ў аснову гэтага тэксту. Такой падзеяй сталіся радкі «Палонніцы» Марселя Пруста, якія вынесены ў эпіграф. Гэта значыць, тут адбылася своеасаблівая містэрыя, рух па кругу — ад аднаго тэксту культуры праз анталагічную структуру чытанне-разуменне, да другога тэксту, з'яўленне якога магчыма толькі пры наяўнасці такой сферы, як сферы чыстых сэнсавых магчымасцяў мовы.*

*З эпіграфам непасрэдна нітуецца форма эсэ ў цэлым. І тут мы пераходзім ад уласна філасофскіх развагаў у свет літаратуры. Як вядома, у класічным літаратурным тэксце паміж эпіграфам і зместам уласна тэксту існуе даволі цесная сувязь: па-першае, эпіграф з'яўляецца своеасаблівай квінтэсенцыяй тэксту; эпіграф дае магчымасць у сціслай форме выявіцца асноўнай ідэі ўсяго твора ці яго часткі. Але ў гэтым эсэ прапануецца іншае трактаванне сувязі эпіграфа і зместу, якое заснавана на постмадэрновых уяўленнях пра тэкст, а да таго ж другое месца эпіграфа ў тэксце, якое надае яму больш значную і нават самадастатковую ролю.*

**Аўтар.**

> Хто хоча захаваць у сабе жаданне жыць і веру ў штосьці больш прыгожае, чым паўсядзённасць, мусіць шпацыраваць, бо на вуліцах і бульварах поўна Багіняў.

М.Пруст, «Палонніца».

Падобна як акрапленне свячонай вадой кажа аб асвячэнні дома Богам, так і словы, што пакідаюць свой след на некранутай, яшчэ жорсткай паверхні, запісваюць наверх яе прысутнасць Першастваральніка, хаваючы яго сабой гэтаксама, як кара дрэваў хавае ад Чужых Вачэй Млечны Сок, што пранізвае Жывы Арганізм ад кароны да карэння, як зямля хавае ад Чужых Рук пяшчотныя і чуллівыя, нібыта нервы, скančэнні каранёў, якія ўцякаюць у невымоўную глыбіню па звілістых падземных сутарэннях.

Першастваральнік тэкстаў прысутнічае тут, але для нас ён застаецца недасягальным. Мы глухія і невідушчыя, не заўважаем Яго і няздатныя да гэтага, таму мы толькі і чакаем таго моманту, калі здолеем пазначыць, азначыць — і нават не Яго, а край ягонай вопраткі, каб гэтая метка, гэтая чарнільная пляма расплывалася паўсюдна, дзе б ён ні з'явіўся. Але ж не: чарнілы з'яўляюцца там, дзе з'яўляемся Мы. Мы, людзі, спрабуем стварыць другое жыццё на паперы замест першага, калі застаўляем:

а) друкаванымі літарамі,
б) прыгожым каліграфічным почыркам,
в) крамзолямі стэнаграфіі,
г) меткамі на палях,
г) палямі, —

усё тое, што яшчэ на волі, што яшчэ не апячатана.

«Прамаўляць наіўна і бездапаможна — горкая, але вартая чалавека доля». (Бібіхін). Ён жа: «Тэкст траціць вешчую стыхію мовы на падробкі, адзіная мэта якіх — адгарадзіць ад слова і адцягнуць сустрэчу з ім».

насці, як яно ёсць». Такой ёсць сутнасць рэформы літаратуры, асэнсавання вуснай мовы як пярэдадня пісьма. Раман з'яўляецца Энцыклапедыяй Дэканструкцыі. Дэканструкцыі, якая ператвараецца, вяртаецца ў праект Асветніцтва, пераадольваннем мадэрнізму ў яго часавых вымярэннях (прэ-, пост-, анты- і да т.п.) сучаснасцю, сучаснымі ведамі. Энцыклапедыя Дэканструкцыі ўтрымлівае ў сабе неабходныя для сучаснага маладога чалавека значэнні і тлумачэнні базавых паняццяў сучаснасці. Гэта наўздзіў згарманізаваная сістэма, каталог са старанна распрацаваных рубрык, лагічнае дрэва, якое па сваёй сапраўднасці і сінтэтычнасці нагадвае сімвалогію дрэва жыцця, што змяшчае ўсю паўнату ведаў у іх рэальным нелінейным выглядзе, як яны сустракаюцца ў рэчаіснасці, трапляюцца ў вопыце, якія так патрэбныя сучаснаму маладому чалавеку, задача якога — заснаваць уласнае пісьмо, папярэдне назбіраўшы пэўны капітал вуснай мовы. Інфляцыя вуснай мовы і цяжкасці на пачатку пісьма без супраціўлення асяродка, які мае ўласную мову, выпрацоўвае ўласную «вусную мову» — гэта рэальнасць, з якой даводзіцца сутыкацца сучаснаму маладому чалавеку.

Прырода пісьма, якая іменуецца часам, і прырода вуснай мовы, якая іменуецца быццём, ёсць расслойванне структуры асобы маладога чалавека як нешта сумеснае, агульная сутнасць абедзвюх прырод ёсць дэканструкцыя самой дэканстуркцыі сапраўдным жыццём Я, што на сваім шляху чэрпае поўнай мерай значэнне і сэнс з абедзвюх прырод у сутным, якое выказваецца. Рух ад часу да быцця, перамена месца часу на месца быцця, пераход — ад пісьма да вуснай мовы відавочныя ў рамане: гэта і пабудова яго сэнсатворнага аповяду з дзесяці сказаў-катэгорый, якім пазначана пераадоленне асэнсаванага пачатку рамана над стылем пісьма; перапляценне сапраўдных фанем, што вызначаюць сутнасць справы сюжэта графемамі, якія фармуюць універсум асэнсавання, з чаго атрымліваецца выпадзенне з тэксту блукаючых па ўсяму тэксту фанеграфем — граматалагем тыпу «калібры» (птушка-гук), «размовы з бацькамі пра службу ў войску» (слова-гук) і г.д., выслоўяў і пустых паваротаў думкі і многіх іншых прыкмет гіперпераходу ад інфляцыі вуснай мовы, з метафізічнай прасторы, да гіперінфляцыі вуснай мовы, у рытарычную прастору, а таксама і выпадзенне самога тэксту з кантынуума асэнсавання. Падзея руху ад быцця ў час ёсць неаплатанізм службы ў войску, ненатуральная эманацыя Я-сутнасці. Сама служба маладога чалавека ў войску ёсць ланцуг ці сістэма элементаў-слядоў, адрозненняў у мове, які і фармуецца структурай службы маладога чалавека ў войску, падпадаючая пад дэканструкцыю яго мыслення. Дэканструкцыя ў гэтым сэнсе ёсць не проста тэрмін, але ўжо дэтэрмінацыя, рух у зваротным накірунку, ад следу-следства да прычыны як такой, да голасу аўтара, ад часу да быцця. Адшуканая прычына перамагае падзею мадэрнізму ва ўсёй яго храналогіі, перамагае біялогію мадэрнізму, якая называецца «службай маладога чалавека ў войску». Прычына перамагае мадэрнізм, таму што думка перамагае метафізіку як незавершанасць пошуку прычынаў.

Гіперінфляцыя вуснай мовы, змяншэнне яе здольнасці выказваць ісціну і падвышаць значнасць пісьма і асэнсаванасць чытання, якая дасягае пры «службе маладога чалавека ў войску» катастрафічнай велічыні, патрабуе распрацоўкі сістэмы індэксацыі вуснай мовы, што выдзяляецца суб'екту мысленнем, г.зн. сістэмы жанраў у літаратуры. Гіперінфляцыя вуснай мовы канструіруе сістэму жанраў, стварае паняцце жанравай адкрытасці літаратуры, пазбаўленае якога б ні было зместу. Жанравая адкрытасць набывае сэнс як здзейсненасць пісьма ў прысутнасці голасу аўтара. Жанравая адкрытасць ёсць звычайным станам аўтара, які пераадольвае метафізіку.

Чытанне — гэта абранне аб'ектам любові голасу аўтара, целам любові — звычайную свядомасць аўтара, як тое, што прамінае шлях ад часу да быцця. Любоў выклікаецца прамінаннем шляху ад часу да быцця. Чытанне павінна быць вольным ад згадак, меркаванняў, умоўнасцяў, яно павінна мець на ўвазе, што тое, што трапляе ў поле яго бачання, не ёсць прыкладам і знакам нечага, адносна чаго чытанне абазначае, а ёсць само па сабе прысутнае, падзея выбаўлення Я аўтара структуры звычайнай свядомасці, якая здзяйсняецца голасам аўтара. Гэткая роля Энцыклапедыі ў мадэрнізацыі ў праект Асветніцтва: даваць не веданне ведаў, а веданне само па сабе, выбавіць веданне з-пад знакаў і паказаць веду. Бадай, не было яшчэ кнігі больш карыснай для сучаснага маладога чалавека. Усе «незразумелькі» ("гульня адрозненняў, якая замінае таму, каб які-небудзь просты элемент мовы прысутнічаў у сабе або сам па сабе, суадносячыся толькі з самім сабой" (Ж.Дэрыда)) аўтар справядліва звязвае з эгаізмам і няўдзячнасцю сучасных маладых людзей.

Якое ж веданне адкрывае сучаснаму маладому чалавеку Энцыклапедыя Дэканструкцыі? Гукавасць сучаснасці, катэгарыяльную структуру гука мовы, яго набрыняласць сэнсам, неадрозненасць ад сэнсу. Гук і сэнс адзіныя і непадзельныя. Значэнне ёсць адрозненне гука мовы ад сэнсу.

Энцыклапедыя Дэканструкцыі — выдатнае апісанне гукавога універсуму сучаснасці, навучэнне фундаментальным гукасэнсам, развой анталагічнага слуху, падобна развою слуху музычнага.

Голас аўтара вядзе сваю партыю. Усё запісванне ёсць абертоны, якія паказваюць на незапісаныя, існуючыя на паверхні запісі камертоны. Тэкст рамана — перапляценне, якое стварае пустыя гнёзды-запісы для змяшчэння камертонаў, акустычнае асяроддзе для іх адтварэння. Вытворчасць тэксту ёсць выраб носьбітаў камертонаў. Чытанне рамана ёсць лакацыя яго гукам мовы, голасам. Вымаўленне запісанага знаёміць свядомасць чытання з голасам аўтара ў ягонай асэнсаванасці, асветленай дзіцячасці.

Як «Гэта» можна вымавіць? Што «Гэтаму» адпавядае ў вуснай мове? Вось асноўныя ўмовы-пытанні разумення рамана, адказы на якія дае сам голас аўтара, закадзіраваны ў рамане, і які адтвараецца пры вымаўленні ў чытанні. Падзея службы ў войску кадзіруе голас аўтара плынню слядоў моўных элементаў, якія пакідаюць фрагменты сюжэта. Апісанне гэтай падзеі ў прысутнасці духу звычайнай свядомасці сумесна з чытаннем гэтага апісання адтварае голас аўтара, прычым чытанне дэкадзіруе і толькі, нічога не творачы, а апісанне непасрэдна адтворвае. Тут выкарыстоўваецца запачаткаваная ўбудаванасць чытання ў пісьмо. Пісьмо завяршае тут чытанне. Інакш — класіцызм, пісьмо залішне ўзрушана блізкасцю голасу, але не здольнае аднавіць яго, чытанне асвячае сваю адмову ад дэкадзіравання голасу і застаецца проста «зрокавай увагай».

Ідэал рамана — пазбаўленне Я другога ад дэканструкцыі дэканструкцыі, ад сутыкнення з жорсткасцю канструкцыі жыцця, любоў да сучаснасці з яе жорсткасцю канструкцыі жыцця, любоў сучаснасці да станаўлення сучаснасці, агіда да мадэрнізму. Эрас, які вандруе разам з плынню жыцця ад часу, пранікласці любоўю звычайнай свядомасці сучаснага маладога чалавека да быцця, пранікласці любоўю яго мыслення — гэта і ёсць голас аўтара.

Як мне стала вядома, нядаўна аўтар рамана скончыў кнігу «Рыторыкі», якая рыхтавался, па заслугоўваючым даверу сведчаннях, на працягу пяці доўгіх год, што ўвабралі ў сябе ўсё юнацтва аўтара. Гэта былі гады спробаў аўтара атрымаць вышэйшую адукацыю. Аўтар ведае, напэўна, што кнігі, роўнай «Рыторыцы», яму ўжо не нарадзіць з прычыны яе непадзельнасці з жыццёвай неабходнасцю аўтара, роўнай прысутнасці. Кніга гэтая з'явілася на свет у поўным сэнсе слова. Спадзяюся, што і гэтая кніга знойдзе свой шлях да чытача.

**П.І.Дэрыба, прафесар Інстытута рыторыкі.**

Мінск.

*Заўвага: Ад Дантэ дастаўся аўтару вонкавы выгляд твора, ад Пушкіна — герой, ад Паскаля — рыторыка, ад Томаса Мана —апавядальнасць, ад Конан Дойля — сюжэт, ад Лоркі — паэзія, ад Сартра — філасофія, ад Вагнера — музыка, ад Веласкеса, Гагена і Дэга — малюнак, ад Пятра І і Джона Кенэдзі — палітычныя ідэі твора.*

# ЧАС І БЫЦЦЁ

## Раман

## Частка першая

*(пачатак)*

За цэлы год да войска пачаў я з адной імгнення здзейсненай задумы свае спробы пазбегнуць яго, ухіліцца ад яго нечакана і пэўна. Усё маё ранейшае — пярэдадзень толькі, дажыццёвае быццё, што спынілася ў сваіх непасрэдных адносінах да жыцця з моманту ўзрушыўшага асновы ўспрыняцця нараджэння саматворчай сябе свядомасці, збіралася ў гэтых спробах, і чым болей незалежным ад думак пра будучую службу ў войску я быў, тым болей відавочна і несумненна, тым болей паважна ставіла сябе гэтая тэма ў маім мысленні, непамерна больш значна пашыраючы мой чалавечы вопыт, чым прачытаная і вынесеная за дужкі кніга, чым чалавек, які выклікаў прыязныя пачуцці. Нічога не было ўва мне, акрамя адной толькі думкі пра ўнікненне службы ў войску, думкі, якая абярнула мяне да часу чалавечага быцця так, што яна паступова выцесніла сам час, сама зрабілася ім, пазначыла яго, была самым надзейным яго знакам, прычынай, падставай, вытокам. З другога боку, натуральная мне невыноснасць характару і сэнсу, якая выяўлялася ў здольнасці да ўжыгнання і бурэння нават самых карэнных асноў часовага вопыту ў стасунках з асобамі, была целам гэтай думкі, яе адчувальнай прысутнасцю ў прыродзе, а болей нічога ўва мне і не было мне ненатуральнага. З трэцяга боку, мае спробы пазбегнуць службы ў войску ператварыліся, парадкуючы сябе з цягам працягласці вопыту, у адну адзіную суцэльную спробу, якая не была ўжо спробай якой бы то ні было дзеі, але была спробай нейкіх невідавочных, што цягнуліся вечна, і бясконцых тлумачэнняў, складанасць якіх шматкроць павялічвалася тым, што яны пераважна не мелі якога-небудзь заўважнага адцення высакароднай апраўдальнасці і пакаяннай першаснасці. Нічым з вядомага мне, — ні малітвай, ні жаданнем, ні лёсам, ні мэтай, — не была гэтая спроба; нязменна лагічнымі, напоўненымі цудоўнай апавядальнай моцай былі гэтыя тлумачэнні. Усё маё Я было нічым іншым, як ледзьве заўважным трымценнем нейкіх адмоўных струнаў душы ад лёгкага подыху, што ўзнікаў у нейкай іншай сферы, у сферы паняццяў, літаратуры, пісьмовасці, у спробе мысліць тое, што было схаваным, варушылася за службай у войску, што праз гэтую службу хавалася. Ніколі не даваў я веры хаосу, заўсёды ён быў для мяне прыгожым слоўкам, адмысловым прыхарошваннем мовы, але менавіта за паняццем «службы ў войску» знаходзіўся, грунтоўна там уладкаваўшыся, хаос, выхаплены і вымкнуты гэтым паняццем з прыроды, яго цяпер пазбаўленай, непераможна ўздзейнічаючы на думку, якая звязвае паняцце з космасам, ён імкнуўся замяніць сабой, выдаліць гэтую думку, гэтую сувязь. Гэта было ведай — аўтарам ідэі «службы ў войску», крыптаграмы на паверхні быцця. Усведамленне, якое бачылася мне раней фантазмам, які запаўняе стыхіямі вады і паветра прастору мыслення, высветлілася існуючым істотнейшым чынам і пачынала выяўляцца ва ўсім, наяўнасць чаго выклікала як лёгкі смех, так і святое трымценне адначасна. Сутнасць гэтых маіх спробаў была, як мне цяпер відавочна, а раней толькі прыадкрывалася ў прыроднай няўклюднасці, ляноце гэтай відавочнасці, — не ў тым, каб знайсці сапраўдны спосаб, абходны шлях і па ім абысці гэтую з'яву, у якой знікае страх усіх жыццёвых з'яў, мне яшчэ невядомых, але ў тым, каб зрабіць паўсядзённай, павярхоўнай саму думку пра службу ў войску, не патураць такому прадумванню гэтай думкі, у якім праявіла б яна сваю неабходнасць, усеагульнасць, акружыла б сябе патаемным сэнсам, апынуўшыся ў яго сарцавіне, у цэнтры светапалегласці сэнсу быцця.

«Бахцін уводзіць рэзкае, бярдзяеўскае па тоне размежаванне паміж жывым, унікальным «здарэннем», актам «быцця, якое здзяйсняецца», з аднаго боку, і плоскай прасторай аб'ектываванай культуры — з іншага. Сувязь паміж «светам жыцця» і «светам культуры» аднабаковая: «здарэнне здзяйсняемага быцця» — творчая дзея, здольная выплюхнуць з сябе мастацкія вобразы і навуковыя пабудовы альбо праліць на іх святло даследчыцкага разумення, але ў ствараемых такім чынам культурных «зместах» выветрываецца адзінкавасць унікальнага «перажывання». Дарогі назад ад пабудоваў культуры да непаўторнага ўчынку стварэння іх больш няма».

Культура шмат у чым ужо замяніла чалавека, выціснула яго з «жыццёвага свету», ператварыўшы ў пакупніка знакаў і гукаў. Але знак не ў стане канчаткова памяціць чалавека і свет, і таму ў чалавека захоўваецца няспыннае адчуванне разарванасці свайго быцця ў свеце і праяўленасці яго ў культуры.

«Я» — уцякае ад прамога бачання. Яно не ёсць знакам альбо якой-кольвек іншай прадметнасцю. Заўсёды адсутнае, яно пакідае толькі сляды прысутнасці. І таму «Я» ёсць дачыненнем. Нават у гэтых словах «Я» не існуе, а толькі магчымае адносна і ў адносінах да іх.

Бахцін піша: «Адзінае быццё — падзея... — не мысліцца, а ёсць».

У кожную эпоху жылі людзі, якія сваім дзеяннем выяўлялі недастатковасць існавання чалавека як у «жыццёвым свеце», так і ў свеце культуры. Яны ўвасаблялі жыццё першага і давалі жыццё другому. У тэксце чалавек няспынна ўнікае самога сябе, і таму тэкст можа даць толькі ілюзію прысутнасці чалавека. Існуе некалькі варыянтаў барацьбы з ілюзіяй асваення тэксту.

Адзін з іх прапаноўвае В.Падарога ў рабоце «Свет без свядомасці»: «Досвед картэзіянскай дыскурсіі пачынаецца з прапановы: мову трэба не пераадольваць, а толькі ўлічваць як нязменную і прыроджаную субстанцыю думкі: яна «нябачная» менавіта таму, што хавае ў сабе універсальныя граматычныя структуры, і гэты парадак... «наперад дадзены» ўсялякаму акту мыслення...»

Але там, дзе Дэкарт знаходзіць «дакладнае» і «першапачатковае», ягоны радыкальны крытык Ніцшэ не знаходзіць нічога, апрача волепалягання, каб штосьці мыслілася так, а не іншым чынам. Напачатку Ніцшэ вылучае з дэкартаўскай формулы «я мыслю і, значыцца, існую» — вербальныя элементы, з якіх яна складаецца, а затым спрабуе паказаць, што ілюзія відавочнасці « я мыслю» дасягнутая чыста граматычным устанаўленнем, якое выключае рэфлексію семантычнага багацця ўжываемых тэрмінаў.

Для Дэкарта, вядома, першасным з'яўляецца не змест тэрмінаў (калі ён канвенцыянальна прыняты ў філасофскай традыцыі), а спосаб іх пачатковага ўпарадкавання... Няма патрэбы абмяркоўваць тое, што чалавек трапляе ў мову яшчэ перад тым, як пачне мысліць. Аднак Ніцшэ не зважае на магчымасць падрабязнага адказу і зноў расчляняе дэкартаўскую формулу, бо яна мае перадумовай веданне, чым ёсць «мысліць» і «быць», але менавіта гэтыя тэрміны належыць растлумачыць у першую чаргу і, такім чынам, патлумачыць найгалоўнейшае: як магчыма перайсці ад «я мыслю» да «я есмь»?

Значыцца, сутнасць гэтага палягае ў тым, каб праверыць, асэнсаваць змест тых тэрмінаў, якія мы ўжываем, а не прымаць іх канвенцыянальна. Гэта своеасаблівае гусэрлеўскае «Назад да саміх рэчаў» або «Называць рэчы ўласнымі імёнамі». А гэта ў сваю чаргу патрабуе непасрэднага ўдзелу кожнага ў працэсе сэнсанадання.

Вяртаючыся цяпер назад, да таго месца, дзе мы казалі аб прысутнасці толькі праяваў чалавека ў тэксце, з'яўляецца жаданне запытацца: «Хто ж прысутнічае ў тэксце?».

У тэксце прысутнічае Першастваральнік. Ён знаходзіцца там, дзе яго ніколі ніхто не чакае. Ён выходзіць за межы тэксту, і ў той жа час дзякуючы толькі тэксту ён з'яўляецца. Ён заўсёды іншы. Ён гаворыць пра тэкст, але нават болей, чымсьці пра тэкст, ён гаворыць пра сябе. Ён сустракае чытача ля «ганка» тэксту і ставіць перад ім непераадольную праблему ўсведамлення, у якім ён, Першастваральнік тэкстаў, — сам не мае патрэбы. Як толькі ты на яго звяртаеш увагу, ён знікае.

Гэта адвечна нязлоўны граф Монтэ-Крыста? Не, гэта часам няўлоўны для тэксту, заўсёды вольны ў сваіх правах Граф Э-Пі. Яму засталося толькі сказаць нам тое, што мы ўжо чулі, але на што не звярнулі ўвагі:

«Хто хоча захаваць у сабе жаданне жыць і веру ў штосьці больш прыгожае, чым паўсядзённасць, мусіць шпацыраваць, бо на вуліцах і бульварах поўна Багіняў».

* * *

Хто скажа, што свет пазбыўся Дабра?
Хто скажа, што свет пазбыўся Ліха?
Хто скажа, што свет пазбыўся Кахання?
Хто скажа, што яно тут было?

Хто можа сказаць аб свеце так, каб з вачэй упала заслона стомленага бывання пры свеце, калі не толькі нашыя разважанні пачалі губляць дакладнасць, але калі і нашыя вочы ўсмактоўваюць у сябе расплывістыя абрысы навакольнага свету, якія, як толькі мы закрываем вочы ў шчаслівым адчуванні надыходзячага сну, разбіваюцца аб яскравасць нашых снаведанняў такім жа чынам, як кінутая мядуза ад удару аб камень жудасна паволі распаўзаецца на і перад ім, пакрываючы яго сабой, забіраючы цвёрдасць ягоных абрысаў і колер, намагаючыся ў сваім перадсмяротным сутаргавым сцісканні ператварыць яго ў сваё падабенства...




Зігмунд ФРЭЙД

# АБ СВЕТАГЛЯДЗЕ

## Урывак з трыццаць пятай лекцыі

*Лекцыя Зігмунда Фрэйда, фрагмент якой мы прапануем чытачам, прысвечаная аналізу рэлігіі, марксізма, увогуле светапогляду з гледзішча псіхааналізу.*

*У арыгінале тэкст досыць празрысты і ён не патрабаваў бы да сябе аніякіх уводзін, каб у свой час Янка Станкевіч не вырашыў перайначыць беларускую мову на сваё разуменне яе ды ўласны густ. «Недзе пачынаючы з 1930 года Янка Станкевіч стае ў апазіцыю да ўсіх дзейных на той час граматык і правапісаў, стварае сваю арыгінальную моўна-гістарычную тэорыю й нават «сваю» мову.» (С. Шупа.)*

*Пэўна, нічога заганнага ў гэтым не было б, каб Янка Станкевіч разглядаў свой вопыт толькі ў якасці індывідуальнага эксперымента, але знаны навукоўца займеў намер перавучыць усіх беларусаў з іх няправільнай на яго, Янкі Станкевіча, правільную беларускую мову.*

*Такая пазіцыя гэтага выдатнага паэта ад філалогіі шмат каго абурала. Уладзімір Жылка нават назваў Янку Станкевіча «шашалем беларускай мовы» і, пэўна, невыпадкова, бо раз'яднанай на «тарашкевіцу» і «наркомаўку» беларускай мове толькі і не хапала яшчэ аднаго фронту супраць яе. (Як на маё разуменне, то і «наркомаўка», і «тарашкевіца», і «станкевіца» — гэта ўсё барацьба не за мову, а супраць мовы.)*

*Янка Станкевіч памёр у ліпені 1976 года, паспеўшы за доўгае жыццё зрабіць многа вартага ўвагі нашчадкаў. Нагадаем толькі вернутую ў «каталог» спадчыны «Аль-кітаб» (святую кнігу беларускіх мусульманаў, пісаную беларускай мовай, але арабскім пісьмом), «Беларуска-расійскі слоўнік» і пераклад на сучасную беларускую (дакладней яго, Станкевіча) мову Біблії. Але ці не самым пераканаўчым сведчаннем на карысць зробленага Янкам Станкевічам ёсць тое, што «вынайдзеныя» ім словы натуральна ўваходзяць у практыку жывой сучаснай мовы. І больш за тое, не толькі асобныя словы і канструкцыі, але і ўся «станкевіца» для некаторых маладых людзей пакрысе робіцца адзіна правільнай беларускай мовай. Яны гавораць на ёй, пішуць і, мабыць, ужо нават сны сняць у стылёвай плыні «станкевіцы». Сярод гэтых маладых людзей і Валерык Булгакаў, студэнт IV курса філфака БДУ, перакладчык лекцыі Зігмунда Фрэйда.*

*Натуральна, Валерык Булгакаў добра ведае словы Уладзіміра Жылкі пра «шашаля беларускай мовы», але ён ніяк не жадае пагадзіцца, што рэалізацыя праекта Янкі Станкевіча, як татальнай практыкі пісьма — гэта яшчэ адзін фронт супраць беларускай мовы. Наколькі ён мае рацыю — меркаваць чытачу. Таму мы і прапануем гэты тэкст у тым выглядзе, у якім ён быў перададзены ў рэдакцыю перакладчыкам.*

**В.А.**

(...) Аддаючы належнае выбітнай існасьці рэлігіі, мусім ведаць, што яна дае людзям. Яна вытлумачвае ім паходжаньне а развой сьвету, упэўняе іх у вапякунсьцьве й канчальным шчасьці, не зважаючы на нягоды жыцьця, яна кіруе іхнай мэнтальнасьцяй і дзеяньнямі праз наказаньні (Vorschriften), якія абараняе ўсім сваім аўтарытэтам. Знакам тым, яна выконвае тры функцыі. Паперщае, яна задавальняе чалавечую цікаўнасьць, робіць тое ж самае, што спрабуе рабіць за дапамогай сваіх сяродкаў навука, і сустракае гэтта ейнае супарства. Сваёй другой функцыі яна забавязаная бадай што большай часткай свайго ўплыву. Калі яна супакойвае страх людзей перад небясьпекамі й нягодамі жыцьця, яна ўпэўняе ў добрым зыходзе, суцішае іх у няшчасьці; гэтага навука ня можа сабе дазволіць. Праўда, апошняя вучыць, як запабегчы сапраўдным небясьпекам, пасьпяхова ходацца зь некаторымі пакутамі; было б дужа няправамерна аспрэчваць тое, што яна ё людзям магутнай памочніцай, але ў шматлікіх выпадках яна мусіць пакідаць чалавека сам-насам із сваім горам і можа парадзіць яму толькі скарыцца. У сваёй трэйцяй функцыі, творачы наказаньні, забароны й абмежаваньні, яна як найболей аддаляецца ад навукі, бо апошняя задавальняецца дасьледаваньнямі й вызначэньнямі, дарма што зь ейнага прытарнаваньня выводзяцца правілы й парады для паводзінаў у жыцьці. Пры ведамых варунках яно (прытарнаваньне) аналягічнае таму, якое прапануецца рэлігіяй, але зь іншым абгрунтаваньнем.

Супадзеньне гэтых трох зьместаў рэлігіі не зусім вымоўнае. Што ж збліжае вытлумачэньне развою сьвету з настойлівым унушваньнем пэўных этычных наказаньняў? Запэўніваньні ў вапякунсьцьве й аддабрадзейваньні (Beglucklung) больш цесна зьвязаныя з этычнымі вымогамі. Яны — плата за выкананьне гэтых прынцыпаў; толькі гэны, хто ім падпарадкоўваецца, можа разьлічваць на гэтыя дабрадзействы, непаслушэнства чакаюць пакараньні. Рэштай, у навуцы існуе штось падобнае. Хто ігнаруе ейнае прытарнаваньне, мяркуе яна, шкодзіць сабе сам.

Зразумець дзіўнае задзіночаньне павучаньня, суцішэньня й вымогі ў рэлігіі можна адно тады, калі заняцца ейным генэтычным аналізам. Яго можна распачаць выходзячы із сама кідкага мейсца ансамблю, з вучэньня аб узьніку сьвету, бо накш чаму касмагонія мусіла быць абавязкавым складнікам рэлігійнае сыстэмы? Знакам тым, вучэньне гаворыць, што сьвет быў створаны якойсьці антрапаморфнай істотай, якімсьці ідэалізаваным надчалавекам, які, аднак, усюдых пераўзыходзіць чалавека — ува ўладзе, у мудрасьці, у сіле жарсьці. Жывёлы як творцы сьвету ўказуюць на ўплыў татэмізму, да чаго мы пасьлей, хоць і збольшага, зьвернемся.

Цікава, што гэткі творца сьвету заўжды адзін, нават гэнам, дзе вераць у многіх багоў. Гэткім парадкам, гэта найчасьцей мужчына, дарма што існуе дастаткова намёкаў на жаночае боства й некаторыя міталёгіі пачынаюць стварэньне сьвету прост з таго, што бог-мужчына спыняе існаваньне жаночага боства, якое ўяўляецца пачварай. Сюды прымыкаюць найцікавейшыя прыватныя праблемы, але мы мусім рушыць далей. Наш далейшы шлях лёгка зацеміць, мянуючы гэтага бога-творцу прост бацькам. Псыхааналіз робіць выснову, што гэта сапраўды бацька, і гэткі найхарошшы, як ён некалі падаўся маленькаму дзіцяці. Рэлігійны чалавек уяўляе стварэньне сьвету гэтак жа, як свой собскі ўзьнік.

У гэткім разе лёгка вытлумачыць, як суцішальныя запэўніваньні й строгія этычныя вымогі лучацца з касмалёгіяй. Бо тая ж самая асоба, якой забавязанае дзіцё сваім існаваньнем, бацька (ці, больш правільна, бацькоўская інстанцыя, складаная з бацькі й маці) абараняла й ахоўвала слабое, бездапаможнае дзіцё, пакінутае ў навонным сьвеце перад абліччам патэнцыйных небясьпекаў; пад ягоным даглядам ён пачуваўся пэўна. Праўда, стаўшы дарослым, чалавек апаноўвае вялікшыя сілы, але гэтаксама ўзмацняецца ягонае разуменьне небясьпекаў жыцьця, і ён правамерна робіць выснову, што, паводле існасьці, ён яшчэ астаецца гэткім жа бездапаможным і неабароненым, як і ў маленсьцьве, што датычна сьвету ён усё шчэ дзіцё. Знакам тым, ён і цяперака ня хоча адмовіцца ад абароны, якой ён паслугаваўся як дзіцё. Але й даўней ён разумеў, што ягоны бацька ў сваёй уладзе — дужа абмежаваная істота, якая не валодае ўсімі перавагамі. Таму ён вяртаецца да карціны ўспамінаў гэтак пераацэненага ў маленсьцьве бацькі, узвышаючы яго да боства й суючы ў цяпершчыну й у рэальнасьць. Афэктыўная сіла гэтае карціны ўспамінаў і працягласьць існаваньня ягонае патрэбы ў вабароне й нясуць у злучве (miteinander) яго веру ў бога.

І трэйці галоўны мамэнт рэлігійнае праграмы, этычная вымога, нязмушана ўключаецца ў гэткую сытуацыю маленства. Я нагадаю вам аб ведамым *Кантавым* выслоўі, якое задзіночвае зорнае неба й маральны закон у нашай душы. Як бы дзіўна ні гучала гэтае спалучэньне — бо што можа быць агульнага ў нябёсных целаў з пытаньнем, ці любіць адно чалавечае дзіцё іншае альбо забівае? — усё ж ткі гэтак яно набліжаецца да вялікае псыхалягічнае праўды. Гэны ж самы бацька (бацькоўская інстанцыя), які даў дзіцяці жыцьцё й ахоўваў яго ад небясьпекаў, павучае яго, што можна рабіць і чым ён не павінны займацца, настаўляе яго, якія пэўныя абмежаваньні ягонага поцягу дапушчальныя, змушае ведаць, якога стаўленьня да бацькоў, братоў і сёстраў чакаюць ад яго, калі яно хоча стацца цярплівым і жаданым чаланом сямейнага кола, а пасьлей і вялікшых супольнасьцяў. Праз сыстэму заахвочваньняў любовяй і пакараньняў у дзіцяці выхоўваецца веда свайго сацыяльнага абавязку, яго навучаюць, што ягоная бясьпека ў жыцьці залежыць ад таго, што бацькі, а тады й іншыя, любяць яго й могуць верыць у ягоную любоў да іх. Тады ўсі гэтыя дачыненьні чалавек у нязьменным выглядзе пераносіць на рэлігію. Забароны й вымогі бацькоў жывуць як маральнае сумленьне ў ягонай душы й надалей; за дапамогай гэнай жа самай сыстэмы ўзнагародаў й пакараньняў Бог кіруе чалавечым сьветам; ад выкананьня этычных вымогаў залежыць, якая мера абароны й шчасьця прызначана індывідуму; бясьпека ўгрунтавана на любові да Бога й у сьвядомасьці быць любым яму, якой узбройваюцца супроць небясьпекаў навоннага сьвету й чалавечага атачэньня. Рэштай, малітвай гвáрантуецца беспасярэдні ўплыў на боскую волю й, дзеля гэтага, удзел у боскай усёмагутнасьці.

Я ведаю, што пакуль вы мяне слухалі, у вас напрошваліся шматлікія пытаньні, на якія вы дужа б хацелі пачуць адказ. Тутака й сяньні я не магу гэта зрабіць, але я пэўны, што кажнае дэталёвае дасьледаваньне не пахіснула б нашае тэзы, што рэлігійны сьветадагляд дэтэрмінаваны праз сытуацыю нашага дзяцінства. Таму апошні адметны тым, што нягледзячы на свой інфантыльны характар, усё ж ткі мае папярэдніка. Гэта быў, няма сумлеву, час без рэлігіі, без багоў. Яго называюць анімізмам. Сьвет тады быў поўны антрапаморфных духовых істотаў, якія мы называем дэманамі, усі аб'екты навоннага сьвету былі населеныя імі альбо, магчыма, ідэнтычнымі зь імі, але не было звышулады, якая б стварыла іх усіх і пасьлей панавала над імі, да якой бы зьвярталіся па абарону й помач у бядзе. Анімістычныя дэманы былі найчасьцей варожа настроеныя да людзей, але, здаецца, што чалавек гэнымчасам больш давяраў сабе, чымся пасьлей. Ведама, ён несупынна пакутваў ад найвялікшага страху перад гэтымі злымі духамі, але ён абараняўся ад іх праз пэўныя дзеяньні, якім удаваў змогу праганяць іх. Дык жа ён ня быў нядужым. Як ён нечага жадаў ад прыроды, прыкладам, ён хацеў, каб пайшоў дождж, дык ён не зьвяртаўся з малітвай да бога прыроды, а займаўся чарадзействам, чакаючы ад яго беспасярэдняга ўзьдзеяньня на прыроду, сам рабіў штось падобнае да дажджу. У ходаньні із сіламі прыроды ягонай першай зброяй была *магія*, першая папярэднічка нашае сяньнішняе тэхнікі. Мы дапушчаем, што вера ў магію паходзіць ад пераацэнкі собскіх інтэлектуальных апэрацыяў, ад веры ўва «ўсёмагутнасьць думак», якую мы, дарэчы, спатыкаем у нашых нэўротыкаў, хворых на прычэпныя станы. Мы маглі б уявіць сабе, што людзі гэнага часу былі асабліва гордыя сваімі моўнымі набыткамі, зь якімі мусіла зьнітавацца вялікая палёгка ў думаньні. Яны надавалі слову чароўную сілу. Гэтую рысу пасьлей пераняла рэлігія. «І сказаў Бог: «Станься сьвятліня». І сталася сьвятліня». Рэштай, факт магічных дзеяньняў паказуе,



што анімістычны чалавек ня прост спадзяваўся на сілу свайго жаданьня. Ён чакаў посьпеху барджджэй ад выкананьня акту, які мусіў пабудзіць прыроду да ягонага перайманьня. Калі ён хацеў, каб пайшоў дождж, ён сам выліваў ваду, калі ён хацеў замовіць зямлю для ўрадлівасьці, ён выяўляў перад ёй на полі відовішча плоцьцевых дачыненьняў.

Вы ведаеце, як цяжка зьнікае тое, што аднойчы набыло псыхічнае выражэньне. Знакам тым, вы не зьдзівіцеся, калі пачуеце, што шмат якія праявы анімізму перахаваліся, поруч з рэлігіяй і дзякуючы ёй, да сяньнішняга дня найчасьцей як гэтак гуканыя забабоны. Больш таго, вы ці зможаце адмовіць меркаваньню, што наша філязофія захоўвае істотныя рысы анімістычнага ладу думаньня: пераацэнку чароўнасьці слова, веру, што рэальныя здарэньні сьвету йдуць шляхамі, якія ім хоча паказаць наша думаньне. Зь іншага боку, мы можам чакаць, што ўжо ў гэнай эпосе існаваў які-колечы від этыкі, наказаньні, датычныя памаўленьня людзей паміж сабой, але гэта не гаворыць за тое, што яны генэтычна зьвязаныя з анімістычнай верай. Праўдападобна, яны былі беспасярэднім выражэньнем судачыненьняў сілаў і практычных патрэбаў.

Вельмі вартыя вывучэньня прычыны пярэйсьця анімізму ў рэлігію, але вы можаце ўявіць сабе, якім моракам дагэтуль ахутаныя гэтыя дагістарычныя часы развою чалавечага духу. Думаецца, што ёсьць фактам тое, што першай хормай зьяўленьня рэлігіі быў дзіўны татэмізм, пакланеньне жывёлам, у зьвязку з чым і паўсталі першыя этычныя прыказаньні, табу. Я распрацоўваў у сваім часе ў кнізе «Татэм і табу» меркаваньне, што гэтае зьмяненьне вытлумачваецца пераваротам у дачыненьнях чалавечае радзімы. Галоўнае асягненьне рэлігіі ў вадрозьненьне ад анімізму ляжыць у псыхічным прадухіленьні страху перад дэманамі. Адылі, як перажытак глыбокае даўніны, злы дух захаваў мейсца ў сыстэме рэлігіі.

Калі гэта была прадгісторыя рэлігійнага сьветагляду, дык зьвернемся цяперака да




Тодар КОПША

# СМЕТНІК



*1.*
*З усіх інтэрнатаў —*
*маіх бяздомных прытулкаў,*
*з усіх гастраномаў,*
*якія мне грэбліва прадаюць*
*паўбохана чорнага хлеба*
*і паўкіло лівернай кілбасы,*
*з усіх міліцэйскіх вуліц,*
*з усіх люстраных вітрынаў*
*я выштурхоўваюся на сметнік.*
*Я, лішні,*
*знявечаны,*
*непрызнаны,*
*падазраваны ва ўсіх злачынствах,*
*ускарасакваюся на свой Манблан,*
*на свой Эверэст,*
*на свой Пік камунізму —*
*на сметнік,*
*які ўсё расце і расце*
*да самага неба,*
*да самага пекла,*
*да самага д'ябла,*
*і сціскаю пальцы правай рукі ў кулак*
*і пагражаю гораду Мінску*
*пагрозай,*
*складзенай са знявечаных сэнсаў:*
*«Збрэч кугільдзя!..»*

*2.*
*Мой бацька нямецкі салдат:*
*ён заваёўваў Беларусь*
*і сеяў, дзе мог, нямецкае семя.*
*Не ведаю, як яго зваць,*
*не ведаю, дзе ён гніе:*
*дар — гэта дар,*
*Tod — гэта Tod,*
*а Копша родам з нябыту.*
*Мне ў губы ўпаролі дрот,*
*каб я ніколі не здолеў*
*вярнуцца туды, дзе было мне добра.*
*Я — Тодар,*
*я — Копша,*
*я — падарунак смерці,*
*я тут,*
*а хачу быць dort.*
*Вы разумееце па-нямецку?*
*Вы разумееце па-беларуску?*
*Ну а, між намі, па-свінску?..*
*Увага, увага,*
*сёння мы вучымся разам:*
*рот — гэта рот,*
*rot — гэта rot.*
*А Копша не радуецца і не смуткуе,*
*што неўзабаве правадыры*
*у гераічным горадзе Мінску*
*зробяць яшчэ аднаму парсюку-недарэку*
*вялікі капут.*

*3.*
*Людзі знікаюць,*
*а сметнікі застаюцца:*
*ну і няхай!..*
*Так шчыльна супалі з сабой*
*мае суайчыннікі,*
*мае мацярынскія беларусы,*
*нібыта выпілі чарку гарэлкі*
*альбо праглынулі яйка.*
*Ну і няхай адказваюць за сябе,*
*за тое, што бачаць,*
*а ўбачыць не могуць,*
*за тое, што выбіраюць,*
*а выбраць не могуць,*
*за тое, што твораць,*
*але нічога не могуць стварыць,*
*апроч сметніка,*
*аднак і сметнік ім не патрэбен.*
*Людзі знікаюць,*
*а я застаюся на сметніку —*
*валадар*
*невядомага Мінска.*
*Сметнік — мая маёмасць,*
*сметнік — мая айчына,*
*сметнік — маё натхненне.*
*Я падбіраю на сметніку*
*рэшткі чыйгосьці быту,*
*абрыўкі чыйгосьці часу,*
*абломкі чыйгосьці лёсу*
*і з іх*
*ствараю сваё мастацтва —*
*сваю невядомую неўміручасць.*

*4.*
*Глуханямыя мае анёлы —*
*глуханямыя дзеці —*
*зляталюцца да мяне, калі бачаць,*
*што я ўжо тут.*
*І падаюць мне яны,*
*што мяне цікавіць:*
*хто — падзёрты замежны часопіс,*
*хто — тутэйшы шкамут*
*з аблічамі правадыроў і перадавікоў...*
*О, я таксама*
*даўно ўжо глуханямы*
*да заклікаў і справаздачаў,*
*але з аблічаў,*
*быццам апошні суд,*
*раблю, што хачу,*
*раблю, што хачу,*
*раблю, што хачу,*
*і шкадую*
*глуханямых дзяцей.*

*5.*
*Мае кульгавыя крокі*
*сведчаць,*
*што ёсць яшчэ іншы свет,*
*што ёсць яшчэ іншае вымярэнне.*
*Мінск замыкаецца*
*у свае прастакутнікі і квадраты*
*і як мага*
*учапервaецца ў паверхню.*
*А я сваім кожным крокам*
*падаю ў глыбіню,*
*падаю ў будучыню,*
*і таму*
*у зацятым спаборніцтве*
*паміж мною і горадам Мінскам*
*перамога апынецца на маім баку.*
*І таму*
*фанабэрлівы,*
*баязлівы,*
*зайздросны Мінск*
*падсылае з мінулага да мяне*
*забойцаў і вымагае:*
*«Аддай тое золата,*
*што ты навыкопваў тут, у маім радовішчы!.."* —
*і прыстаўляе*
*да геніяльнага майго горла*
*бліскучы сталёвы нож.*

*Канец 70-х гадоў.*

У гэтым нумары «ЗНО» - калажы Тодара Копшы (Рыгора Яновіча)

*Рада «ЗНО»: Валянцін Акудовіч (адказны за выпуск), Алесь Разанаў, Ігар Бабкоў, Юрась Барысевіч.*

# КАЛІ ЧАС ВЫЗНАЧАЕЦЦА ТВОРЧАСЦЮ

ПРОЙДУЦЬ гады, і наш час адыдзе ў гісторыю. Як пра аджытае будуць гаварыць пра сучасныя падзеі, канфлікты, спрэчкі аб шляхах развіцця культуры і мастацтва.

У той будучыні жыццё нашага Саюза мастакоў будзе ўспрымацца мазаікай розных стылёвых накірункаў і, наогул, часам пошукаў і эксперыментаў. Мноства мастацкіх галерэй, назвы якіх часта арыентаваны на чалавека з веданнем не толькі беларускай ці рускай моваў, разнастайнасць выстаў і твораў на іх, па якіх можна больш разважаць аб індывідуальных асаблівасцях іх аўтараў, чым па свядома выбранаму напрамку развіцця нацыянальнай школы, — усё гэта да характарыстыкі супярэчлівага жыцця напрыканцы XX стагоддзя.

Гэты перыяд сёння ўспрымаецца як час, калі ломіцца логіка ўсталяваўшыхся працэсаў. Але... пацвярджаюцца законы прыроды. Чалавек нібыта на ланцужку: у творчасці ён часам можа адысці далей ад рэчаіснасці, але потым вяртаецца на арбіты большага ўплыву і прыцягнення прыроды. Таму змены стыляў у мастацтве і нашых эстэтычных прыхільнасцяў нагадваюць прынцып «маятніка».

Сёння, здаецца, той час, калі маятнік адхіліўся ў бок ад рэалістычнага мастацтва. Мабыць, таму выставы мастакоў гэтай плыні ў нашай Нацыянальнай галерэі — з'явы не вельмі частыя. Але тым большая наша цікавасць да іх, і мала хто не наведае ў гэтыя дні персанальную выставу вядомага беларускага мастака-жывапісца, даследчыка гісторыі беларускага мастацтва, педагога Акадэміі мастацтваў, народнага мастака Беларусі Паўла Васілевіча Масленікава.

Імя мастака пачынае гучаць на рэспубліканскіх, міжнароодных , былых саюзных выставах з 1949 года. І сёння мы маем рэдкую магчымасць убачыць работы, якія створаны гэтым мастаком больш чым за 45 гадоў творчага жыцця.

У экспазіцыю ўвайшлі партрэты блізкіх, маці, аўтапартрэт, напісаныя ў 1935 — 1947 гг., краявіды, эцюды больш позніх гадоў, уключаючы створаныя ў 1993 годзе.

Срэбра-блакітная гама, якая пануе ў работах, напаўняе выставачную залу прасторай чыстага неба, празрыстасцю беларускіх азёраў, таямнічасцю лясных прагалін. Краявіды прэвалююць. Яны розныя па настрою прыроды, але захоўваюць своеасаблівую веліч натуры, яе ўзвышаную стрыманасць.

Пра многае, што можна ўбачыць у работах П.Масленікава, мы забыліся. Мы забыліся, якой чысціні можа быць каляровая гама, як фарбы мяняюць свае адценні на палотнах жывапісца ў залежнасці ад стану прыроды, якую духоўную недасягальнасць здольны адчуць чалавек ад успрымання простых сіняй і блакітнай фарбаў, якой таямнічай дзівоснасцю валодаюць смарагдавае і ўсе іншыя адценні зялёнага.

На творы мастака, якія лучацца па тэмах у цэлыя нізкі (напрыклад, «На Вячы», «Золата бяроз», «Алтайскія далягляды», «Прыбалтыйская цішыня»), можна глядзець па-рознаму. Для адных — яны проста жывапісныя палотны, якія вельмі блізка да рэальнасці перадаюць хараство прыроды. Жывапіс майстра, якому прырода адкрываецца сваім самым чароўным бокам, здольнага ўзнавіць на палатне і зафіксаваць яе фарбы, свет, усе адценні яе настрою, — безумоўна; прыцягвае, будзіць патаемныя струны душы. Такая ацэнка — ацэнка якасцяў самастойных работ. У ёй —задавальненне нашай асабістай зацікаўленасці пры сустрэчы проста з высакаякасным прафесійным мастацкім творам.

Але многія гэтую выставу будуць успрымаць як магчымасць убачыць калекцыю беларускага выяўленчага мастацтва за гістарычны перыяд, які пачынаецца ў канцы 30-х і заканчваецца пачаткам 90-х гадоў XX ст., як выставу, па экспазіцыі якой можна прасачыць сувязі рэалістычных жывапісных традыцый ад беларускіх мастакоў — І.Ахрэмчыка і Ф.Фогта, іх працяг і развіццё ў творчасці некалькіх пакаленняў выпускнікоў былога тэатральна-мастацкага інстытута (сёння — Акадэміі мастацтваў). Адначасова можна супаставіць выставы, якія праходзяць у залах той жа Нацыянальнай галерэі (на першым і другім паверхах), для таго, каб вырашыць пытанне: якое мастацтва спрыяе разбуральным працэсам у душы чалавека, а якое дапамагае захаваць высокі ўзровень духоўнасці.



Экспазіцыя, у якую ўвайшло каля 205 жывапісных твораў, усё ж не дае поўнага ўяўлення аб markознабаковай дзейнасці майстра. Станковы жывапіс — гэта тая галіна, якой П.Масленікаў аддаў усё сваё жыццё. З ім мастак звязаў свае мары, задумы, у ім рэалізаваў сябе як чалавечая асоба і творца.

Але пачынаўся мастак з захаплення тэатрам. Некаторыя работы, такія, як эскізы дэкарацый да оперы А.Рубінштэйна «Дэман», П.Чайкоўскага «Іяланта», К.Караева «Сцежкаю грому», Ю.Мейтуса «Маладая гвардыя», нагадваюць пра пачатак творчага жыцця П.Масленікава як мастака-сцэнографа. Менавіта тэатр сфармаваў майстра як асобу са сваім успрыманнем жыцця, асабістым светапоглядам, самастойным адчуваннем шляхоў развіцця нацыянальнай культуры і беларускай школы мастацтва.

Сёння з нагоды юбілея майстра, мабыць, мае сэнс прыгадаць афармленне некаторых спектакляў у тэатры оперы і балета. Гэта опера А.Багатырова «У пушчах Палесся», Я.Цікоцкага «Міхась Падгорны», А.Туранкова «Кветка шчасця», балет М.Крошнера «Салавей», сцэнаграфія оперы А.Юроўскага «Трыльбі», балета Б.Асаф'ева «Бахчысарайскі фантан», опер Дж.Пучыні «Тоска», А.Рубінштэйна «Дэман», Р.Леанкавала «Паяцы», Панкіелі «Джаконда», што ўвайшлі ў залаты фонд беларускага тэатральна-дэкаратыўнага мастацтва.

У тэатры П.Масленікаў стварыў казачнае дзейства. Гэтае адчуванне казачнасці, якое ўзнікае з-за амаль што незямной прыгажосці прыроды ў краявідах, захоўваецца ў яго станковых палотнах. Рэальнасць натуры трансфармуецца праз рамантычна-ўзвышанае ўспрыняцце жыцця.

Натуральна, што творы мастака абуджаюць цікавасць да яго жыццёвых акалічнасцяў, да асабістай біяграфіі. У мастака, у якога творчае жыццё і лёс супадаюць, гэтыя старонкі выглядаюць сціпла.

Мастак нарадзіўся 1 лютага 1914 года ў сялянскай сям'і на Магілёўшчыне. Потым былі — школа, Магілёўскі педтэхнікум, педагагічны інстытут. Але вельмі моцным было захапленне мастацтвам. І яно перамагло. Яшчэ маладым па гадах чалавекам ён пастулае ў Віцебскую мастацкую вучэльню. З гэтых часоў пачалося сапраўднае творчае жыццё, у якім далейшая вучоба ў Акадэміі мастацтваў імя І.Рэпіна сумяшчалася з пастаяннай творчай працай. Гэта быў пачатак шляху да самаўзвышэння. Ён працягваецца сёння ў працы, якая, я веру, адкрые новую старонку таленту гэтага чалавека.

Творчасць П.Масленікава на працягу не аднаго дзесяцігоддзя служыла беларускаму народу, і сёння ён афіцыйна атрымаў званне народнага мастака Беларусі. У жыцці майстра — гэта не ўзнагарода, а прызнанне дэ-факта значэння яго творчасці і работы для нашай суверэннай дзяржавы.

Людміла МАЛЕНКА,
кандыдат мастацтвазнаўства.

# ПАЛЮБІЦЕ БАЛЕТ!

Пра балет пішуць нямногія, пішуць досыць рэдка. Надта ж ужо ён спецыфічны. Таму, хто піша, цяжка перадаць словамі ўражанне ад мастацтва, якое знарочыста адыходзіць ад слоў, выбірае іншыя сродкі для перадачы пачуццяў і думак, шукае невербальныя спосабы ўздзеяння на гледачоў. Але беларускаму балету пашанцавала: ён прыцягвае ўвагу крытыкаў зноў і зноў. Вось і яшчэ адна праца — «Гаркавы смак ісціны» Таццяны Мушынскай, якая прысвечана артыстам балета. Відаць, штосьці ёсць у іх мастацтве такое, што прыносіць радасць не толькі пры сузіранні, але і пры роздуме пра іх, пры апісанні іх творчасці.

Аўтару ўдаецца падзяліцца гэтай радасцю і з чытачамі, перадаць тое адчуванне захаплення, што выклікае ў яе майстэрства нашых балерын і танцоўшчыкаў. «Хіба звычайныя людзі могуць так распараджацца пачуццямі гледачоў, сцэнічным часам і прасторай?» — пытаецца яна. І сама імкнецца адказаць на гэтае пытанне, расказваючы пра два бакі жыцця артыстаў — будзённы і сцэнічны. Т.Мушынскую па-добраму здзіўляе гэтая іх здольнасць да пераўвасаблення, да самаахвярнасці, няхай нават не заўсёды ўсвядомленай. Жыццё танцоўшчыкаў перш за ўсё належыць сцэне. У прыватнасці, знаходзячыся ў гасцях у Л.Бржазоўскай, адной з любімых сваіх балерын, аўтар заўважае: «...падумалася, што тут мая гераіня часцей толькі прысутнічала, знаходзілася. А найбольш істотная, цікавая і значная частка яе жыцця праходзіць у тэатры, на сцэне, у час гастрольных вандровак». Альбо вось акцэнтаваныя аўтарам словы з інтэрв"ю з Т.Яршовай:"Былі моманты, калі на сцэне я адчувала сябе значна лепш, чым у жыцці, адчувала, што прыдуманае — больш рэальнае за існае. Нават было адчуванне ненармальнасці: як гэта можа быць? Можа! Мне проста лепш на сцэне...". Ствараючы цэласны партрэт акцёра і чалавека, Т.Мушынская прыходзіць да думкі пра цесную повязь гэтых дзвюх іпастасяў творчай асобы і гаворыць пра гэта карэктна, без пераціску. Такія ролі, як Кармэн, Фрыгія, Ева, Паміраючы лебедзь, «трэба часцей за ўсё выпакутаваць уласным жыццём», —піша яна. І з ёй немагчыма не пагадзіцца.

Жыццё тэатра працякае ў часе, сцэнічны лёс артыста балета рэалізуецца на працягу двух дзесяцігоддзяў. І вельмі каштоўна, што Т.Мушынская — жывы сведка гэтага працэсу, і не проста сведка, а зацікаўлены балельшчык. Яе клопат пра творчасць таго або іншага акцёра асабліва прыкметны там, дзе штосьці не атрымалася, не да канца адбылося. Яна імкнецца памагчы балерыне ці танцоўшчыку не толькі аналізуючы, ацэньваючы зробленае імі, але і звяртаючы ўвагу кіраўніцтва трупы на існуючыя праблемы. Яна пераканаўча і даволі справядліва піша, напрыклад, пра неабходнасць стварэння для Т. Шэметавец, таленавітай і яркай танцоўшчыцы, спецыяльнага рэпертуару, пра магчымасці больш шырокага выкарыстання яе здольнасцей. Спачуванне і добрае стаўленне аўтара да сваіх герояў адчуваецца і ў апошнім, групавым партрэце, дзе Т.Мушынская расказвае пра самых маладых вядучых артыстаў трупы — Е.Фурман, А.Фурмана, У.Далгіх, Ж.Лебедзеву. І ў той жа час аўтару не хочацца, каб яе нарысы пераварыліся ў парадныя партрэты. Яна задумваецца над сур"ёзнымі пытаннямі і дысгармоніяй, якія існуюць у творчым жыцці артыста балета. Як вырашыць праблему супярэчлівасці паміж маладосцю акцёра і патрабаваннямі духоўнай сталасці, якія вымагае тая або іншая роля? Ці можна патрабаваць ад выканаўцаў ахвярнасці, поўнай самааддачы ва ўмовах, калі ён падзяляе разам з усімі чэргі, інфляцыю, дэфіцыт, калі галоўным робіцца пытанне «як выжыць?». Гэтымі пытаннямі, так бы мовіць, і заканчваецца кніга. І гэта сведчыць пра тое, што аўтар працягвае разважаць над тэмай. А значыць, знаходзіць адказы на пастаўленыя пытанні.

Якія можна прад"явіць прэтэнзіі да аўтара? У мяне яны невялікія. Відаць, Т.Мушынская крыху залішне ідзе за ўстойлівымі ацэнкамі, разглядае па сутнасці прызнаных акцёраў у прызнаных ролях. Яна



не рызыкуе, ні з кім не дыскутуе і сама не выклікае жадання спрачацца. Адсюль — некаторая другаснасць тону аповяду, дакладней, гладкапіс. Ён, як вядома, мае свае перавагі. Але і свае выдаткі.

Мне асабіста не вельмі спадабалася і назва кнігі — «Гаркавы смак ісціны». Падалося, што гэта хутчэй — пра дзеячаў навукі ці, скажам, філосафаў. Назва папярэдняй кнігі Т.Мушынскай — «Гармонія дуэта» — была, на мой погляд, больш балетнай. Але гэта думка, вядома, суб"ектыўная. Ды і не ў назве справа. Галоўнае, што аўтар гэтай маленькай кнігі, якая выйшла ў свет летась дзякуючы «Бібліятэцы часопіса « Маладосць», адчувае да балета вялікую любоў і імкнецца перадаць яе сваім чытачам.

Юлія ЧУРКО.
Фота І. ГУДЗІЕЎСКАЙ.

# ТРЫ ГАЛІНЫ АДНАГО РОДУ

*Людства мае нямала прыкладаў таго, як прадстаўнікі аднаго роду, аднае фаміліі бліскуча паслужылі сваім народам, нацыям у розных галінах навукі і культуры. Згадайма, збольшага, французаў бацьку і сына Дзюма, расейцаў братоў Аксакавых, пісьменнікаў Талстых (і Леў Мікалаевіч, і Аляксей Канстанцінавіч, і Аляксей Мікалаевіч былі ў пэўным сваяцтве), і пералік гэты можна доўжыць бясконца...*

У беларусаў гэткіх прыкладаў таксама нямала. Перадусім — гэта браты Каліноўскія, Віктар і Кастусь; браты Іван і Антон Луцкевічы; браты Гарэцкія, Максім і Гаўрыла; браты Шашалевічы, Андрэй і Васіль...

Вёска Урляняты, што на Ашмяншчыне, дала беларусам трох выдатных дзеячаў, трох Станкевічаў — Яна, Адама, Станіслава. Яны былі блізкімі сваякамі і сучаснікамі, жылі ў вельмі жорсткі, супярэчлівы і складаны час, і хоць усе былі дзеячамі культуры, ніводзін не ўнікнуў палітыкі, бо ўсё ў свеце яшчэ й да сёння задужа палітызаванае. Усіх трох напаткаў трагічны лёс: Адам загінуў у сталінскім канцлагеры, Ян і Станіслаў большую частку жыцця правялі на выгнанні.

Ян Станкевіч (1891 — 1976) пакінуў у нашае гісторыі прыкметны след як гісторык, публіцыст, мовазнавец. Пэўны час ён працаваў у рэдакцыі «Нашай Нівы» (1914), ваяваў на франтах першай сусветнай вайны, зведаў кайзераўскі палон. Па звароце на радзіму браў удзел у абвяшчэнні БНР. Пасля сканчэння Віленскай Беларускай гімназіі вучыўся ў Карлавым універсітэце ў Празе, дзе абараніў дысертацыю па мове беларускіх Аль-Кітабаў і дастаў доктарскае годнасці за яе. Абіраўся паслом у Польскі Сейм ад беларускай нацыянальнай меншасці, выкладаў ва універсітэце Стэфана Баторыя і іншых навучальных установах Вільні. Ян Станкевіч — аўтар папулярнага гістарычнага нарыса «Крыўя-Беларусь у мінуласьці» (Менск, 1942), рэчы, якую з поўным правам можна паставіць у адзін шэраг з «Гісторыяй Беларусі» В.Ластоўскага, «Кароткім нарысам гісторыі Беларусі» Ус.Ігнатоўскага, кнігай Я.Найдзюка, «Старажытнай Беларуссю» М.Ермаловіча. З 1944 г. Ян Станкевіч жыве ў Нямеччыне і ЗША. На эміграцыі ён шмат займаецца рэдактарскай і выдавецкай справай. Газеты і часопісы «Незалежнік», «Родныя гоні», «Нёман», «Веда», «Родная мова» і іншыя выходзілі пры ягоным непасрэдным удзеле. Ян Станкевіч ведамы яшчэ й як перакладчык Бібліі на беларускую мову (1973). Ягонаму пяру належыць фундаментальная праца «Беларуска-расійскі слоўнік», які, на жаль, аўтару не давялося пабачыць, а давяршаў і выдаваў яго сын нябожчыка — Юрка Станкевіч.

Адам Станкевіч (1892 — 1949) — адзін з лідэраў беларускага хрысціянска-дэмакратычнага руху, беларускі каталіцкі святар, які ўсё сваё жыццё прысвяціў беларусізацыі касцёла і змаганню з польскім клірам на Беларусі, рэдактар і выдавец часопіса «Хрысьціянская думка», аўтар блізу дваццаці працаў па пытаннях беларускай гісторыі, рэлігіі, культуры, мовы й асветы. Сама грунтоўная з іх — «Беларускі хрысьціянскі рух», «Хрысьціянства і беларускі народ», «Родная мова ў сьвятынях». Гэтыя кнігі нараджаліся з казанняў айца Адама, паслухаць якіх у Вільню вернікі прыязджалі за сотні кіламетраў. Натуральна, што асноўным заняткам, асноўнаю працаю Адама Станкевіча была ягоная місіянерская дзейнасць, але й грамадска-палітычнай ён аддаваў нямала. Ён — пасол ад беларускага народа ў Варшаўскім Сейме, дырэктар Беларускай дзяржаўнай прагімназіі, старшыня Беларускага Цэнтра Літвы, адзін з кіраўнікоў Таварыства Беларускай Школы, Беларускага выдавецкага Таварыства, стваральнік беларускай друкарні імя Ф.Скарыны, старшыня Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. Айцец Станкевіч меў добрую духоўную адукацыю. Ён скончыў Віленскую духоўную семінарыю (1914), Пецярбургскую Рымска-Каталіцкую Акадэмію (1918) і атрымаў ступень кандыдата кананічнага права.

Уцяг 20 — 40-х гадоў, бадай, ці не кожная нацыянальна-дэмакратычная справа ў Заходняе Беларусі мела самую актыўную падтрымку ксяндза Адама Станкевіча. Нягледзячы на рэпрэсіі польскіх уладаў (а айца Адама пазбаўлялі права выкладаць рэлігію ў беларускай гімназіі, у 1928 г. ён вымушаны быў выйсці з Сейма, бо арцыбіскуп забараніў святарам займацца палітыкай, і адысці ад афіцыйнага кіравання Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыяй, у 1938 г. яго высылаюць з Вільні на пяць гадоў у Слонім, дзе ён, аднак, прабыў толькі год), Станкевіч працягвае працу на ніве беларушчыны. Пасля далучэння Заходняе Беларусі да СССР рэпрэсіі ў дачыненні да айца Станкевіча пачынаюцца і з боку НКВД: яго звальняюць з дырэктарства Беларускай гімназіі, валочаць на допыты.

За нямецкай акупацыяй Адам Станкевіч усяляк ухіляўся ад супрацоўніцтва з фашыстоўцамі. У снежні ж 1944 г. яго першы раз заарыштоўваюць сталінскія ўлады, але не надоўга. Па выхадзе з турмы ксёндз Станкевіч працягвае працаваць у касцёле, ходаецца за магчымасць даць беларускаму народу захоўваць і развіваць сваю нацыянальную самасвядомасць у Летуве, просіць аб вызваленні з савецкіх астрогаў рэпрэсаваных беларускіх ксяндзоў. 13 красавіка 1949 г. яго другі раз заарыштоўваюць, айцец Адам трапляе ў тайшэцкі лагер, дзе ён і загінуў 4 снежня таго ж года.

Станіслаў Станкевіч (1907 — 1980), адзін з сама абазнаных літаратура— і мовазнаўцаў беларускае дыяспары, у 1933 г. скончыў гуманістычны факультэт Віленскага універсітэта імя Стэфана Баторыя, пасля чаго выкладаў там польскую мову й літаратуру. У 1936 г. ён выдае кнігу «Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі», за якую дастае годнасць доктара філасофіі. З 1937 па 1938 г. працуе ў Югаславіі.

У 30-х гадах Станіслаў Станкевіч актыўна супрацоўнічае ў заходнебеларускіх газетах і часопісах. Уз'яднанне 1939 г. застае яго ў Наваградку, дзе ён працуе выкладчыкам у тэатральным інстытуце.

За часамі нямецкае акупацыі Станкевіч знаходзіўся на розных адміністрацыйных пасадах. Ён быў бургамістрам у Барысаве і Баранавічах. У 1944 г. апынуўся ў Баварыі.

У паваенным часе займаўся журналістыкай, быў шэфам-дырэктарам выдавецтва «Бацькаўшчына» (1947 — 1962), працаваў на радыёстанцыі «Свабода», выдаваў газету «Беларус», актыўна выступаў у друку (пад псеўданімамі Язэп Каранеўскі, Ст.Крушыніч, крыптанімам Ст.Ст. і пад уласным прозвішчам) з літаратурна-крытычнымі артыкуламі пра класічную беларускую літаратуру. Так, ягонаму пяру належыць шэраг грунтоўных прац пра Янку Купалу («Купала праўдзівы і Купала сфальшаваны», 1956; «Янка Купала й бальшавізм», 1956; «У 16-ю гадавіну сьмерці Янкі Купалы», 1958; «Тэатральныя перарöбкі Купалавае клясыкі», 1974; «Забаронены Купала», 1977), Якуба Коласа, Алеся Гаруна, Каруся Каганца, Альбрэхта Паўловіча, Ядвігіна Ш., Ф.Багушэвіча («Ня рэгабілітацыі, а асуджэньні», 1980; «Францішак Багушэвіч», 1980). У 1967 г. свае артыкулы пра бягучы літаратурны працэс Станіслаў Станкевіч аб'яднаў у кнізе «Беларуская падсавецкая літаратура першае паловіны 1960-х гадоў». Літаратурна-крытычны даробак Станкевіча вызначаецца высокім узроўнем прафесійнасці, глыбокім валоданнем пазакан'юнктурнай фактурай, бескампраміснасцю ў падачы і ацэнцы матэрыялу, рашучым непрыняццем заідэалагізаваных установак і прынцыпаў сацыялістычнае творчасці. І ніяк нельга пагадзіцца з выказваннямі накшталт таго, што «літаратурныя і крытычныя працы С.Станкевіча неглыбокія, думкі і вывады часцей за ўсё правакацыйныя».

З 1962 г. С.Станкевіч жыве ў ЗША, супрацоўнічае з Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва, выступае з артыкуламі ў друкаваным органе гэтае ўстановы «Запісах» (1962 — 1966), дзе змяшчае грунтоўную навуковую працу «Русыфікацыя беларускае мовы ў СССР і супраціў русыфікацыйнаму працэсу». Пяру Станкевіча належыць шэраг папулярызатарскіх артыкулаў па пытаннях беларускай літаратуры і культуры ў эміграцыйных расейскіх, украінскіх, польскіх выданнях, а таксама шматлікія англамоўныя публікацыі (шэраг ягоных артыкулаў, прысвечаных беларускай савецкай літаратуры, выйшаў у Канадзе ў сярэдзіне 70-х гадоў).

Кніга С.Станкевіча «Янка Купала: На 100-я ўгодкі ад нараджэньня». Выдавецтва газеты «Беларус». Нью-Ёрк, 1982 — гэта нібы падагульненне шматгадовае працы аднаго з сама дасведчаных купалазнаўцаў беларускае эміграцыі.

Перад намі тры постаці, тры выдатныя дзеячы беларускай гісторыі, культуры, тры галіны магутнага беларускага сялянскага роду Станкевічаў. Перад намі прыклад самаахвярнага паслугавання і служэння Бацькаўшчыне. У час, калі ўсё беларускае забаранялася, нішчылася, існавала небяспека заплаціць жыццём за прыналежнасць да свайго народа, яны ў невыносных варунках працавалі дзеля яго і дзеля ягонае будучыні, абылганыя, залічаныя ў шэрагі ворагаў, збанітаваныя на выгнанні, яны неслі цяжкі крыж захавальнікаў нацыі і верылі ў духовае і дзяржаўнае ўваскрасенне Беларусі.

Што Беларусь мае гэткіх сыноў, ёй пазайздросціць любая краіна свету.

Алег ДЫШЛЕВІЧ, выкладчык.
Менск.

# ЯК ТЫ, МАЛЫ ГОРАД?

АДБЫЛОСЯ пашыранае пасяджэнне актыву праўлення Беларускага фонду культуры. Удзельнікі яго абмяркоўвалі, якое пытанне паставіць у парадак дня маючага адбыцца ў красавіку пленума фонду.

Большасць выступаўшых на пасяджэнні сышлося на думцы, што іх вельмі хвалюе лёс малых гарадоў рэспублікі. На Беларусі такіх гарадоў і мястэчак налічваецца каля 12 тысяч, сярод якіх старажытныя: Навагрудак, Нясвіж, Заслаўе, Мсціслаў, Тураў і многія, многія іншыя. Яны нясуць у сабе гісторыю далёкай мінуўшчыны беларусаў, і разам з тым, у іх пульсе і сённяшні дзень нашага народа. А ў якім стане знаходзяцца яны сёння?

Гаворка ішла перш за ўсё аб культуры малых гарадоў. Яна чахне, чэзне, выраджаецца. Разбураюцца ўшчэнт астаткі былых гістарычных збудаванняў. У апошні час намаганнямі рэлігійных арганізацый нешта робіцца па аднаўленні гістарычных помнікаў, але як робіцца? Нават унікальныя роспісы ў храмах перапісваюцца пры рэстаўрацыі. Спецыялісты, вучоныя мала прыцягваюцца да кіраўніцтва рэстаўрацыйнымі работамі. Таму халтуршчыкамі знішчаюцца і старажытнасць, і самабытнасць.

Закраналася на пасяджэнні і праблема кадраў культуры ў малых гарадах. З пераменамі ў эканоміцы, з развіццём бізнесу лідэры краязнаўчага таварыства адзін за адным адышлі ад краязнаўчага руху. Хто пайшоў у палітыку, хто ў іншыя аб'яднанні і таварыствы.

Сродкі масавай інфармацыі абыходзяць праблемы культуры ў малых гарадах. Быццам не заўважаюць, як антыкультура агрэсіўна затуманьвае свядомасць моладзі, абалваньвае юнакоў і дзяўчат, робіць іх неўспрымальнымі да нацыянальных традыцый, да сапраўднай духоўнасці.

У гэтым плане заслугоўвае ўвагі тое, што школьныя музеі маглі б стаць прапагандыстамі нацыянальнай культуры. Дарэчы, іх нямала, і ў многіх з іх ёсць цікавыя экспазіцыі, але дзейнасць такіх музеяў неўпарадкавана.

Ставілася праблема аб стварэнні мясцовых музеяў, у якіх раскрывалася б гісторыя роднага краю, што таксама выхоўвала б патрыятызм, любоў да сваёй гісторыі, памяць пра продкаў, якія пакінулі свой след на зямлі.

Такім чынам неабходнасць абмеркаваць на пленуме Беларускага фонду культуры праблемы малых гарадоў прызнана адзінадушна. Толькі абмеркаванню такому павінна папярэднічаць грунтоўная падрыхтоўка. Прапаноўвалася правесці «круглы стол» з удзелам усіх зацікаўленых арганізацый і асоб. Акрамя таго, было б вельмі карысна, калі б праблемы малых гарадоў, іх культуры, архітэктуры, рэстаўрацыі помнікаў і гэтак далей абмяркоўваліся ў друку, па радыё і тэлебачанні. Гэта дало б магчымасць больш грунтоўна вырашыць іх і на пленуме БФК. Журналісты могуць унесці важкі ўклад у такую дыскусію.

На пленум будуць запрошаны прадстаўнікі розных арганізацый і ўладных структур, сродкаў масавай інфармацыі. Лёс малых гарадоў і мястэчак — гэта лёс тысяч і тысяч нашых людзей, пакуль што абдзеленых культурным абслугоўваннем. Без вырашэння іх праблем нельга падняць узровень духоўнасці народа.

В.КУДРАЎЦАВА,
вядучы спецыяліст

# СПАДЧЫНА НАРОДА НЕ МОЖА БЫЦЬ ПРЫВАТНАЙ



ВЫРАШЫЎ напісаць вам, прачытаўшы ў N6 за г.г. артыкул «Зямля Чорнай Дамы», прысвечаны няпростаму лёсу аднаго з нашых славутых архітэктурна-гістарычных помнікаў — Нясвіжскаму замку, што доўгія стагоддзі належаў не менш знакамітай на Беларусі сям'і Радзівілаў. У свой час Мусаліні з-за сваяцтва з нашчадкамі Радзівілаў не дазволіў канчаткова разрабаваць радзівілаўскі палац і фарны касцёл. Цікава было даведацца таксама, што нават былы амерыканскі прэзідэнт Джон Кенэдзі клапаціўся аб тым, каб касцёл у Нясвіжы працягваў існаваць па сваім першасным прызначэнні, а не ператварыўся ў музей атэізму, як было тады распаўсюджана.

...Колькі гадоў таму мне давялося быць у Нясвіжы з экскурсіяй. Ніколі не забудуся на тое вялікае ўражанне, якое выклікаў у мяне цудоўны замак і садова-паркавы ансамбль, рэшткі якога яшчэ захаваліся, хаця і не ў лепшым выглядзе. Нягледзячы на тое, што ўсе пабудовы відавочна ўжо патрабавалі рэстаўрацыі (фарбы аблупіліся, у некаторых месцах праглядвала муроўка), у той прыгожы, па-восеньску залаты дзень усё выглядала незвычайна і святочна. Цяжка было даць веры, што ў гэтым прыгожым, класічнага стылю палацы з аркамі і каланадамі знаходзяцца зараз санаторныя палаты і па калідорах ходзяць урачы ды медсёстры... Але ж гэта так і было, бо, увайшоўшы на замкавы двор, мы ўбачылі на тэрасе некалькі сталага веку дзядзькоў у спартыўных касцюмах, што гутарылі, абмяркоўваючы, мабыць, апошнія палітычныя навіны. Гэта выклікала ў душы абурэнне, але не супраць таго, каб старыя адпачывалі ў добраўпарадкаваных санаторыях, а таму, што санаторыі гэтыя робяцца чамусьці ў палацах — будынках, што з'яўляюцца гонарам нашым, нашай гісторыяй. Ці ж няма іншага выйсця?

Вельмі добра, на маю думку, што зараз на Беларусі знайшліся неабыякавыя людзі (у першую чаргу я маю на ўвазе вядомага гісторыка і культуролага Адама Мальдзіса і ягоных аднадумцаў), якія, турбуючыся аб захаванні нашай спадчыны, стварылі Міжнародны фонд «Нясвіж». Нясвіжскі замак — гэта вялікая і бліскучая зорка ў сузор'і нашай мінуўшчыны, і на гэта нельга забывацца.

... Але мяне вельмі некапоіць іншы бок праблемы. З публікацый «Культуры» за мінулы год я даведаўся, што нашчадак роду Радзівілаў — Мікалай Радзівіл-Тамашэўскі, які сёння жыве з сям'ёй у Францыі, прыязджаў ужо на Беларусь з мэтай вяртання сваёй родавай спадчыннай маёмасці — Нясвіжскага замка і тэрыторыі вакол яго. Карацей кажучы, «француз» Радзівіл імкнецца прыватызаваць спадчыну сваіх продкаў. Можа, ён і мае законныя правы, як непасрэдны нашчадак, але давайце паразважаем разам, ці ж добра будзе, калі Нясвіжскі ансамбль, які з'яўляецца нашай АГУЛЬНАЙ гістарычнай спадчынай, спадчынай усяго беларускага народа (а не толькі Мікалая Радзівіла і ягонай сям'і), перадаць у прыватныя рукі? Мне здаецца, было б справядліва, калі б у Нясвіжы быў заснаваны нацыянальны культурна-гістарычны музей з адпаведнай экспазіцыяй, што адлюстроўваў бы слаўную і няпростую гісторыю Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай і, безумоўна, роду Радзівілаў, многія прадстаўнікі якога былі сапраўднымі патрыётамі сваёй Бацькаўшчыны і заслужылі добрую памяць аб сабе. Калі наша дзяржава і яе заканадаўчыя органы прыйдуць да высновы, што Мікалай Радзівіл мае права на валоданне палацам — добра, але ўсё роўна тут павінен быць музейны ансамбль.

... Летась мне давялося быць некалькі дзён у Германіі і ў якасці культурнай праграмы нямецкія сябры прапанавалі наведаць старажытную крэпасць, заснаваную яшчэ ў XII стагоддзі. Не буду распавядаць пра незвычайныя ўражанні ад гэтага сярэднявечнага замка часоў крыжовых паходаў, хацелася б адзначыць толькі наступнае. Гід, руская-эмігрантка, расказала нам, што крэпасць і навакольныя землі з'яўляюцца прыватнай уласнасцю, але па дамове паміж гаспадаром і дзяржавай тут створаны музей, на які выдаткоўваюцца грошы з дзяржбюджэту, і частка іх ідзе ўладальніку, які нават і не жыве ў Германіі. Нешта падобнае да арэнды... Але ж гэта добра! І справядліва.

Гістарычная спадчына павінна быць даступнаю для ўсіх, незалежна ад таго, пашчасціла табе нарадзіцца ў сям'і магнатаў ці не, бо гісторыя народа не можа, не павінна быць прыватнай. Яна належыць нам усім.

Дзмітрый КАСЮК.
г.Барысаў.

## КАНТРАМАРКА

# Промні неўміручай легенды

*Упершыню ў гісторыі айчыннага тэатра распачынае сцэнічнае жыццё вялікі твор беларускай літаратуры эпохі Рэнесансу —эпічная паэма Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра». Нягледзячы на пэўныя мастацкія хібы, спектакль мае магутную энергетыку. Ён выпраменьвае святло, якое мае і ідэйную, і эстэтычную каштоўнасць.*

*Беларускі тэатр юнага гледача такім чынам прамаўляе сваё слова ў той справе, якую здзяйсняе сёння нацыянальная культура, якая вызначаецца такім ёмістым паняццем, як «адраджэнне». У гэтым сэнсе адраджэнскія тэндэнцыі ў сучасным тэатральным мастацтве нясуць і зместавыя, ідэйныя адзнакі, і ўласна эстэтычныя. Міжволі параўноўваючы эпохі ў гісторыі нацыі, якія мы звыкла называем «адраджэннем», варта і важна сцвердзіць, што палітычныя матывы цесна суіснавалі і суіснуюць з тэндэнцыямі мастацкімі. Тая ж «Песня пра зубра», створаная ў 1522 годзе, і адлюстравала сацыяльна-палітычныя супярэчнасці ў жыцці грамадства Вялікага Княства Літоўскага, і стала ўзорам лірыка-эпічнай паэмы, багатай на паэтычны слоўнік, гукавы і рытмічны малюнак. Пачатак нашага стагоддзя, «нашаніўская» пара: Купала, Колас, Гарун, іншыя літаратары былі не толькі прапаведнікамі нацыянальна-вызвольных ідэй, але і пачаткоўцамі новай мастацкай пісьменнасці. Тое ж можна сказаць і пра дзеячаў айчыннай сцэны таго часу — пра Ігната Буйніцкага, Францішка Аляхновіча, Фларыяна Ждановіча, Уладзіслава Галубка, якія адкрывалі новыя магчымасці нацыянальнага тэатра. Сёння: тыя ж пастаноўкі на купалаўскай сцэне «Тутэйшых» ці «Ідыліі» Мікалаем Пінігіным — гэта не толькі знак часу ці пазіцыі мастака, а і спасціжэнне, удакладненне своеасаблівай мастацкай формы нацыянальнай свядомасці, пошук жанру, стылю, адметнай выразнасці. У гэтым сэнсе і тюгаўская «Песня пра зубра» таксама з'ява прыкметная, промні якой пакідаюць след.*

## ПРАМЕНЬ ПЕРШЫ: гісторыя — палітыка — мараль

З'яўленне спектакля вельмі своечасовае. Сёння, калі над Айчынай неба зноў зацягнута хмарамі, са сцэны гучаць бессмяротныя словы паэта-гуманіста і асветніка XVI стагоддзя Міколы Гусоўскага. Пра што яны? Пра любоў і вернасць Бацькаўшчыне, пра адказнасць кожнага, хто жыве на гэтай шчодра палітай крывёю продкаў зямлі, за яе лёс, нарэшце, пра адказнасць тых, каму дадзена ўлада, за народ. Словы, гукі, пластыка спектакля пашыраюць сэнс напісанага колькі вякоў назад аж да адзінай найвышэйшай маралі, згодна з якой жылі нашы прашчуры. Вобразнасць пастаноўкі адзінай мараллю знітоўвае імёны, пазначаныя ў тэатральнай праграмцы, з нашымі ўяўленнямі, ведамі, вопытам, душамі. У растрывожанай свядомасці ажываюць і зусім аддаленыя ў гісторыі патрыёты-волаты Полацкай зямлі, параўноўваеш іх з князямі Вялікага княства, праводзіш паралелі з сённяшнімі змагарамі-адраджэнцамі і нават з тымі, хто, дарваўшыся да ўлады, пачынае гандаль суверэнітэтам. Магчыма, роздумам пра мараль, крытэрыем якой ва ўсе часы і ва ўсіх народаў выступала адданасць нацыянальнай і дзяржаўнай незалежнасці, а значыць, і пра чалавечую годнасць у вышэйшым сэнсе слова, найбольш трывожыць гэты спектакль.

Меў народ наш гэтую мараль і жыў па яе няпісаных законах. Зубру — алегарычны вобраз беларускага краю, сімвал яе магутнасці і маральнасці — заўсёды рупіла «бяспека свайго існавання».

*«Ззаду хай шорхне і мыш —*
*уловіць звер асцярожны,*
*Гэта заслуга вушэй,*
*што сцерагуць яго тыя.*
*Згледзеў цябе. Але ты не спяшайся,*
*ідзі сабе смела,*
*Толькі каб меч не блішчэў,*
*не зіхацела кап'ё...*
*Побач калі зубраня тупоча*
*з нядрэмнай зубрыцай,*
*Шумы ад зброі любой маці*
*прыводзяць у злосць».*

Усё, што замінала так жыць, згодна з натуральнымі і для прыроды, і для чалавечай супольнасці законамі, — войны звонку, ад туркаў, татараў, маскавітаў, роўна як унутрыдзяржаўную міжусобіцу ці паляванні ўладароў на свой народ, — Мікола Гусоўскі катэгарычна не прымаў, бо несла гэта толькі няшчасці і пакуты радзіме і паспалітаму люду. Веліч, геніяльнасць «Песні пра зубра» — у паэтычнай алегарычнасці раскрыцця менталітэту нашага народа, у закліку да абуджэння нацыянальнай свядомасці. Гусоўскі ў сцэнічнай інтэрпрэтацыі тэатра будзіць нашу памяць, якая заснула, растварылася ў шэрай будзённасці: былі, жылі людзі, мільёны людзей, што склалі сотні пакаленняў, ад якіх мы генетычна і паходзім, толькі адцураліся ад іх і маральна выradзіліся. Не ім верым, а сучасным манкуртам ва ўладзе. Галоўны ўрок спектакля — не маем права на здраду ідэалам людзей, на змену якім мы і прыйшлі на гэтую шматпакутную зямлю.

Праз стагоддзі пасля «залатога веку» Бацькаўшчыны, эпохі Вялікага Вітаўта, якая таксама мела істотныя супярэчнасці, мы зноў незалежныя, зноў, здаецца, гісторыя нам дорыць шанц. Але ці адшукаем мы тую найсвяцейшую мараль, каб яго скарыстаць? Ні прэм'ер, ні народам абраны Вярхоўны Савет, ні сам сучасны народ за капейчыну з суседскай кішэні не мае права здаць сваю дзяржаўнасць чужынцам. Не мы зрабілі гэты выбар. Суверэннасць падаецца нам падарункам Божым. Не, яна нам дадзена гісторыяй. Наш выбар у іншым — у захаванні таго, за што пакутавалі, за што пралівалі кроў у барацьбе з ворагамі папярэднікі. Хто мы? Мы толькі звяно ў ланцугу паміж мінуўшчынай і будучыняй. Наша прызначэнне — захаваць свабоду для тых, хто будзе жыць пасля нас.

Палітычны пафас зліваецца з маральным, абрамляе дзеянне, асвячаецца трапяткім святлом свечкі ў цемры мінулага і сучаснага, скіроўваецца ў няведамую прастору будучыні. Жудаснае паляванне на зубра, якое распачалі Вітаўт і Ягайла, не мае перспектывы. Адзіны вынік яго — слёзы, роспач. З хору яшчэ зусім нядаўна цвёрдых, мужных інтанацый пранізліва вырываецца дзіцячы голас адчаю:

*«Свет вар'яцее. І ўсе міратворцы*
*на словах —*
*Гэта ваўкі пад ягнячым руном*
*крася-моўства.*
*І без твайго настаўлення,*
*Прамудрая Дзева,*
*Думка не прыйдзе, што трэба*
*за розум узяцца,*
*Маці Прачыстая Дзева Марыя,*
*о, заступіся за нас..."*

Падаецца надзвычай важным, што спектакль пастаўлены на сцэне Тэатра юнага гледача, што яго будуць глядзець не толькі дарослыя, а найперш моладзь.

**Вячаслаў РАКІЦКІ.**

*(Заканчэнне будзе)*

На здымку: сцэна са спектакля.

**Фота І. ГУДЗІЕЎСКАЙ.**



КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Мастацкія рэдактары — Наталля ОВАД, Барыс ШУЛЬМАН
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ
Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра газеты «Культура»

Адрас рэдакцыі:
220050, МІНСК (МЕНСК),
вул.КІРАВА, 25, кв. 12.
Тэлефон: 27-83-18

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў



Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 13000
Замова 6
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку»

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

